

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ №5 (13537)

27 студзеня — 2 лютага 1992 года

Цана 1 рубель (па падпісцы — 35 кап.)


У нумары:



У чарзе па дзяцінства. Фота С. Брушко.

**Акадэмія навук Рэспублікі Беларусь засталася без прэзідэнта.**

Чуткі аб яго адстаўцы хадзілі даўно, але толькі на гэтым тыдні стала дакладна вядома, што акадэмік Уладзімір Платонаў пакінуў штурвал калёснага парахода беларускай навукі, каб заняць месца ў рубцы атамнага авіяносца навукі амерыканскай. За каментарыямі да гэтай падзеі мы звярталіся да асоб, якія кіруюць акадэміяй, калі прэзідэнт адсутнічае. Прычым адна з гэтых асоб наогул адмовілася размаўляць з намі, другая ж паведаміла аб тым, што акадэмік Платонаў хоча займацца навукай і будзе працаваць там, дзе хоча.

Як бачна, вядучыя навукоўцы рэспублікі не вельмі хочуць дзяліцца сваімі ўражаннямі аб адстаўцы свайго лідэра. Буйны спецыяліст у галіне вышэйшай матэматыкі акадэмік Платонаў, вядома, мае права працаваць там, дзе яму ствараюць лепшыя ўмовы. Але можа стацца, што ў апусцелых кабінетах Акадэміі

## КУДЫ сплываюць акадэмікі?




навук Рэспублікі Беларусь галодныя пацукі будуць есці рэштки геніяльных навуковых прац беларускіх вучоных, якім беларускі народ не толькі не дапамог у цяжкую гадзіну, але і пазбавіў таго, што даў ім раней...

Японская газета "Іяміуры" паведаміла, што толькі ў 1990 годзе з рэспублік былога СССР з'ехала за мяжу амаль 70 тыс. спецыялістаў па ключавых галінах навукі. І цяпер новыя тысячы бамбардзіруюць заходнія даследчыя цэнтры і універсітэты просьбамі аб прыёме на работу. У ЗША ўжо жывуць і працуюць каля дзесяці савецкіх акадэмікаў. Бачна па ўсяму, што беларускія вучоныя вырашылі не адставаць ад сваіх калег.

Аказваецца, кілаграм мазгоў у нас каштуе прыкладна ў 1000 разоў танней, чым за акіянам. Там жа ствараюцца фонды па падтрымцы вучоных-ядзершчыкаў былога СССР, каб толькі яны не разбегліся па свеце... Дык можа папрасіць добрага Дзядзьку Сэма, каб ён плаціў за разумныя мазгі беларускіх вучоных у казну Беларусі? Ці можа ён ужо заплаціў?

**Алесь Палынскі.**

**P.S.** Калі вярстаўся нумар, газета "Праўда" паведаміла:"Навукоўцы Акадэміі навук Беларусі, здаецца, таксама ўдарыліся ў камерцыю. Яны стварылі навукова-вытворчую кампанію "Трыэс", якая будзе адкрыта гандляваць "мазгамі". Далей "Праўда" канстатуе, што "...не ад добрага жыцця заняліся яны незвычайнай для сябе справай. Эканамічны крызіс прывёў да гэтага".

## ALFA

# МІРНАЯ АКУПАЦЫЯ

Дакладна не памятаю, але нехта з нашых сатырыкаў прапанаваў вывесці былы Савецкі Саюз з палітычнага і эканамічнага крызісу за адну ноч. Дзеля гэтага, на яго думку, дастаткова аб'явіць вечарам вайну адной з развітых капіталістычных краін, а раніцай паведаміць аб поўнай капітуляцыі.

За гэтым "чорным" гумарам бачацца вельмі небяспечныя настроі, якія ўсё глыбей і глыбей закранаюць наша грамадства. Сёння радыё і тэлебачанне, перыядычны друк малююць дзяржавы Захаду ў самых ружовых фарбах. Замежныя палітыкі і бізнесмены падаюцца лепшымі сябрамі і дарадцамі краін СНД, а першыя асобы нашых рэспублік, прымаючы важныя гістарычныя рашэнні, спяшаюцца ўзгадніць іх з прэзідэнтам ЗША Д.Бушам. Складваецца ўражанне, што апошні больш клапоціцца аб дабрабыце народаў былога СССР, чым самі Б.Ельцын, С.Шушкевіч, Л.Краўчук, Н.Назарбаеў і іншыя.

Маніпуляцыя грамадскай думкай прымушае людзей верыць у выратавальную місію краін капіталу. Зусім нядаўна давялося пачуць ад аднаго маладога чалавека жахлівыя словы: "Хутчэй бы нас якая Амерыка заваявала. Хоць пажылі б крыху". Нават не верыцца, што мы настолькі страцілі пачуццё гістарычнай памяці свайго свабодалюбівага народа і ўласнай годнасці! У гісторыі чалавецтва, бадай, не было выпадку, каб людзі вось так, за кавалак кілбасы і прыгожую замежную анучу, жадалі акупацыі сваёй Радзімы.

Між іншым тыя ж амерыканцы не спяшаюцца кідацца з абдымкамі да народаў разваленага не без іх дапамогі Савецкага Саюза. Мы для многіх па-ранейшаму "ворагі", пераможаныя ў "халоднай" вайне.

Пагартайце газеты ЗША і вы ўбачыце, якая крытыка разгорнута ў апошнія дні вакол бязвыплатнай дапамогі краінам СНД. "Навошта аддаваць намі назапашанае пераможанаму ворагу? – пытаюцца амерыканцы.–' Павінна ж быць усё наадварот". Відаць, з гэтых меркаванняў і "дабрачыннасць" Захаду скіравана не на ўмацненне нашых рэспублік, а на мірную палітычную і эканамічную акупацыю.

У час нядаўняй міжнароднай канферэнцыі ў Вашынгтоне па каардынацыі дапамогі разваленаму СССР прэзідэнт Д.Буш паабяцаў прасіць у кангрэса ЗША 645 мільёнаў даляраў для бязвыплатнага садзейнічання краінам СНД. На якія ж мэты пойдуць гэтыя грошы? Можа Амерыка дапаможа нам хоць крыху выправіць справы ў эканоміцы, выратаваць народ ад галечы? Як бы не так! Асноўная частка валюты (500 мільёнаў даляраў) мэтавым прызначэннем будзе выкарыстана на знішчэнне ядзернай зброі былога СССР. Самае цікавае: у гэтай справе прыме непасрэдны і актыўны ўдзел Пентагон. Што ні кажы, а галоўная мэта ЗША заключаецца, відаць, у тым, каб канчаткова абяззброіць былую магутную ядзерную дзяржаву і паставіць яе абрубкі-рэспублікі на калені. Міф аб сусветным брацтве, прапагандуемы многімі дэмакратамі, з таго ж лексікону, што і славутая "непарушная дружба народаў СССР".

Здзіўляе, што нашы палітычныя лідэры не бачаць гэтых нюансаў. У інтэрв'ю тэлекампаніі "Эй-бі-сі" расейскі прэзідэнт Б.Ельцын заявіў:"Мы хочам памяняць ваенную дактрыну, не лічыць Злучаныя Штаты нашым патэнцыяльным праціўнікам і змяніць сістэмы індывідуальнага навядзення балістычных ракет, каб яны не былі наведзены на гарады Злучаных Штатаў". Падобных аднабаковых ініцыятыў шмат на рахунку экс-прэзідэнта СССР М.Гарбачова. Але адміністрацыя ЗША рэагавала на іх, як на нешта само сабой зразумелае. Не думаю, што пасля гэтай палітычнай угодлівасці Б.Ельцына, на наш родны Мінск перастануць пагражальна пазіраць амерыканскія ракеты, а Рэспубліка Беларусь зробіцца больш незалежнай. Як кажуць, прыехалі!

**Алег Камінскі.**

# ВЫБРАНЕЦКАЯ МАЗАІКА

Група дэпутатаў — рабочых Наваполацка выступіла з ініцыятывай правядзення агульнагарадской канферэнцыі рабочых. На ёй мяркуецца абраць сваю раду, якая як самастойна, так і ў кантакце з мясцовымі органамі ўлады, іншымі грамадскімі фарміраваннямі магла б праводзіць у жыццё рабочую лінію і адстойваць іхнія правы і інтарэсы. "Выйсце — ня верыць партыям",— з гэтага тэзісу дэпутата Л.Сапранецкага і распачаўся рух.

* * *

14 і 15 студзеня ў Дзвінску (Даўгаўпілсе), Латвія — праходзіла сустрэча рабочых груп па ўстанаўленню мяжы паміж Латвійскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь.

Рашэнне пра стварэнне такіх груп было прынята ў Юрмале, дзе 16 снежня кіраўнікі дзвюх дзяржаў падпісалі дэкларацыю аб прынцыпах добрасуседства паміж Латвіяй і Беларуссю. Ужо ў канцы снежня групы, у якія ўваходзяць, акрамя афіцыйных асоб, геадэзісты і тапографы, правялі пасяджэнне ў Віцебску. У Даўгаўпілсе яны прадоўжылі сумесную дзейнасць, кажучы моваю пратакола, "па дэлімітацыі і дэмаркацыі мяжы".

Асноўны вынік сустрэчы ў тым, што бакі прыйшлі да згоды: лінія мяжы будзе ў прынцыпе супадаць з прынятым на гэты момант адміністратыўна-тэрытарыяльным дзяленнем. Удакладненні патрабуюцца толькі ў тых месцах, дзе міждзяржаўныя рубяжы заааралі.

Наступная сустрэча плануецца на канец студзеня. Як сказаў першы сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Мікалай Камісараў, "у нас існуюць добрыя перспектывы для таго, каб устанаўленне мяжы паміж Беларуссю і Латвіяй было ўзорам для другіх дзяржаў".

Вельмі б хацелася, каб і пасля "дэлімітацыі і дэмаркацыі" мяжы мы маглі б паранейшаму адзначаць разам з замежнымі сваякамі сямейныя святы, проста ездзіць, а то і хадзіць адзін да аднаго ў госці.

* * *

Польшча прадала Украіне самалёты савецкай вытворчасці — 7 ІЛ-62 і 10 АН-24 — за 15 мільёнаў даляраў.

* * *

Быццам ветрам здзьмула грамадзян былога СССР з польскіх барахолак у сувязі з увядзеннем у Расіі, іншых суверэнных рэспубліках СНД свабодных цэн. Пачынаючы з другога студзеня гэтага года на самым вялікім базары Польшчы — варшаўскім стадыёне гандаль ідзе практычна без прысутнасці савецкіх "турыстаў". А гэта, у сваю чаргу, выклікала ўздыхі аблягчэння ў сталічных паліцэйскіх, санітарных службаў і шкадобу ў шматлікіх палякаў і мясцовых дзяльцоў "чорнага рынку", любячых купляць танныя тавары ў сваіх усходніх суседзяў.

**"Выбранецкая інфармацыйная служба".**



# Мы зноў будуем БАМ,

### але ўжо без камсамола.

У свой час чырваназменаўцы нямала чалавека-дзён адпрацавалі у гонар славутай камсамольскай будоўлі. Пад той час я яшчэ бегаў у школку і думаў, што працоўны гераізм – гэта сапраўды вынік мудрай палітыкі партыі і ўрада. А нядаўна сустрэў чалавека, які ящчэ да вайны ўдзельнічаў у будаўніцтве таго, першага БАМа. Удзельнічаў у якасці вартаўніка "ворагаў народа". Пасівелы "БАМавец" распавядаў, што неўзабаве пасля вайны ён жа і разбіраў пабудаванае "зэкамі" – завітыя штопарам рэйкі, струхлелыя шпалы...

Чыгунку пабудавалі, але ўсе забылі, што яна здадзеная ў эксплуатацыю толькі ў аб'ёме пускавога комплекса. Гэта значыць, што мінімум вытворчых і сацыяльных аб"ектаў не здольны спрыяць паўнацэннай эксплуатацыі БАМа. Выдаткі ад магістралі склалі проста касмічную суму.

І вось, нарэшце, Прэзідэнт Расіі падпісаў пастанову" Аб мерах па завяршэнню будаўніцтва БАМа і пабудове чыгуначнай лініі Беркакіт – Тамот – Якуцк". Для рэалізацыі гэтай пастановы будзе створана акцыянерная кампанія, прыцягнуты банкаўскія крэдыты, сродкі зацікаўленых прадпрыемстваў суверэнных дзяржаў, а таксама замежны капітал. Будзем спадзявацца, што БАМ не прыйдзецца разбіраць другі раз.

**А. ПАЛЫНСКІ.**

НА ЗДЫМКУ: на будаўніцтве вагоннага дэпо ў Тындзе занята ў пяць разоў менш рабочых, чым патрабуе тэхналагічны працэс. Тое ж самае і на іншых аб"ектах БАМа.

## *выХАВАННЕ*

# "АНУ, УСЕ ДАДОМУ!"

Менавіта такі сэнс носіць прадпісанне, якое нядаўна атрымалі кубінскія студэнты, што вучацца ў ВНУ былога Саюза. Да сакавіка яны павінны пакінуць нашу краіну. Студэнтам гарантуецца, што на Кубе яны змогуць працягваць адукацыю, хаця дакладна вядома, што па шэрагу навук, якія кубінскія студэнты вывучалі тут, на іх радзіме спецыялістаў не рыхтуюць.

Неабходнасць такога тэрміновага вяртання прадстаўнікі кубінскага міністэрства вышэйшых навучальных устаноў тлумачаць эканамічнымі цяжкасцямі краіны і новымі фінансавымі ўмовамі падрыхтоўкі студэнтаў, якія паставіла перад Кубай наша краіна.

Аднак відавочна, што падстава тут чыста палітычная. Падобную аперацыю Куба ўжо рабіла два гады таму ў адносінах да сваіх студэнтаў, якія навучаліся ў ВНУ Усходняй Еўропы. Дарэчы, кубінцам, якія тады не пажадалі вяртацца, урады ўсходнееўрапейскіх краін пайшлі насустрач. Як цяпер будуць дзейнічаць нашы, пакуль невядома.

**А.Стрэхава.**

# Быць царкве ў Дастоеве

Шмат культавых помнікаў архітэктуры знікла на нашай зямлі ў полымі войнаў. Яшчэ больш знішчана "змагарамі" з перажыткамі мінулага ды барацьбітамі з рэлігіяй у пяцідзесятых-сямідзесятых гадах нашага стагоддзя. У гэтым сумным спісе значылася і знесеная у 1962 годзе Св.Троіцкая царква ў в. Дастоева Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Значылася, бо прынята рашэнне ўзвесці на тым жа месцы новую царкву. Нядаўна ўтвораны прыходскі савет звярнуўся да тых, каму дарагія гісторыя і культура роднай зямлі, з просьбай аб грашовай або асабістай дапамозе.

**М.Багадзяж.**

*P.S.Дарэчы, у гэтай царкве ў свой час служыў святаром дзядуля славутага рускага пісьменніка Ф.М.Дастаеўскага.*

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Георгій Штыхаў, доктар навук, загадчык аддзела археалогіі АН РБ.*



Гістарычная навука ляціць у бездань. Скарачаюцца супрацоўнікі акадэміі. Нават археолагаў гэтае не абышло! На Беларусі археолагаў лічаныя адзінкі, цяпер жа застанецца на чвэрць менш. Пры будаўніцтве, пры палявых работах разбураюцца археалагічныя помнікі — нават зараз не хапае сіл сачыць за ўсім гэтым, а што будзе далей — жах бярэ. Адзіны спосаб захаваць помнікі — гэта даследаваць іх. Хто будзе гэта рабіць? Патрэбна служба аховы помнікаў, у якой археолагі павінны граць далёка не апошнюю ролю. Зараз пішацца гісторыя Беларусі, высвятляецца паходжанне беларусаў, і для гэтага проста неабходна вывучаць і археалагічныя помнікі. Гэта праца патрэбная для адраджэння свядомасці, духоўнае адраджэнне без ведання гісторыі немагчымае.

Што б я назваў самай важнай падзеяй апошняга часу? Павышэнне цэн. Нягледзячы на ўсе меры, прылаўкі пустыя. Але я спадзяюся на лепшае, на тое, што гэты цяжкі год будзе апошнім годам такой галечы.

*Васіль Зуёнак, старшыня Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі.*



Апошнім часам адносіны рынку і літаратуры, рынку і мастацтва ўступілі ў перадсмяротнае сутыкненне. Самае небяспечнае, што намі страчваецца ўзровень. Не выклікае спрэчак, што берагчы нацыянальную культуру, значыць, мець заруку будучыні грамадства — як духоўнай будучыні, так і эканамічнай. Усё пастаўлена з ног на галаву, кіраўніцтва рэспублікі мяркуе, што робіць правільна, калі заціскае мастацтва ў ланцугі. Падаткаабкладанне прызначана для таго, каб выцягнуць з культуры апошні рубель. Суверэнная дзяржава павінна клапаціцца аб захаванні культуры, гэта зарука выжывання. Творчыя саюзы рабілі пэўныя захады — звярталіся і да Вярхоўнага Савета, і да ўрада. Ніякіх вынікаў. Ужо два гады, як прыняты Закон аб культуры,— ніякага зруху.

Аднак у міжнародным плане робяцца важныя захады. Абмен дыпламатычнымі місіямі, візіты на Беларусь замежных палітычных дзеячаў сведчаць, што Беларусь стала на шлях міжнароднага прызнання.

*Міхаіл Бязручанка, старшыня Камітэта маладзёжных арганізацый Беларусі.*



Вядома, у каго што баліць — той аб тым і гаворыць. Вельмі хацелася, каб беларускі парламент удзяляў больш увагі маладзёжнай палітыцы рэспублікі. На жаль, наш урад знайшоў немэтазгодным увядзенне пасады міністра па справах моладзі. Тым больш, што калі мы зараз бярэм за прыклад заходнія краіны,— там да маладзёжных праблем ставяцца сур'ёзна і адказна.

КМА — гэта своеасаблівы "круглы стол" маладзёжных арганізацый Беларусі. Нашы мэты — вырашэнне агульных праблем: занятасці, інфармаванасці моладзі, каардынацыі дзеянняў розных маладзёжных арганізацый РБ і інш. Зараз у складзе КМА маладзёжны экалагічны рух "Беларусь", Асацыяцыя воінаў-інтэрнацыяналістаў, БМТ "Спадарожнік", аб'яднанне "Чырвоны Жонд", піянерская арганізацыя, СМБ, Дзіцячы фонд і іншыя. У перспектыве будзе арганізаваны абмен групамі моладзі з замежнымі цэнтрамі, падобнымі КМА. Гэтыя групы будуць камплектавацца ў асноўным з маламаёмных слаёў моладзі: рабочых, навучэнцаў, студэнтаў. Што датычыцца асноўных падзей тыдня, я б вызначыў візіты на Беларусь міністра замежных спраў Ралана Дзюма, прадстаўнікоў адміністрацыі ЗША, візіт прэм'ер-міністра Кебіча ў Кітай.

# Хто будзе першым адміралам?.. або

## Як "позиционер" Опачка апазіцыянера Трусава ўшчучваў




### Фельетонны пралог

Хто сказаў, што Беларусь не марская дзяржава? Мінскае ж мора ў нас маецца, а "Акіянаў" — дык ці не ў кожным абласным цэнтры па аднаму ёсць! "Акіяны" ёсць, ды толькі заломаўскія селядцы ў іх не салоняцца, вэнджаныя тунцы не тлушчацца і небарака-камбала сваімі вочкамі-дуплексамі не жмурыцца. Заплюшчым жа мы свае цнатлівыя чытацкія гляздзелкі і паслухаем, якая такая нагода ў адсутнасці марской рыбы на паліцах беларускіх "Акіянаў". А распавядзе нам пра гэта Віктар Опачка, штатны прагназіст навастворанай газеты "Политика. Позиция. Прогноз", якая ўсяго толькі пяць разоў убачыла свет, а ўжо ментарскі гук набыла ды кожнаму сыну хатуль за спіну раздала.

Называецца артыкул вышэйпамянёнага аўтара "Депутат Трусов будет адмиралом..." У лепшых традыцыях гумарыста Жырыноўскага прагназіст Опачка вяшчае:"Спадар Трусов — народны депутат Республики Беларусь — известен весьма и весьма... Держит речь Трусов (постоянно) на телевидении, ведет размову в газетах и журналах, на улицах и площадях, в столице и на периферии, в военных частях... Говорит не меньше, чем Горбачев до отречения...

А все почему? Потому что Трусов все знает... Политику, экономику, социологию, историю (кандидат наук), философию, религию, юриспруденцию (особенно земельное право), культуру, дипломатию, экологию, политологию, военное искусство... и даже демагогию!"

Стоп! Калі за "Гарбачова", шаноўны Віктар Бацькавіч, Вы не атрымалі жоўтую картку, дык за "дэмагогію" атрымайце бел-чырвона-белую. Працягвайце, калі ласка.

"Читатель и слушатель, избиратель и зритель уже не удивляется, не восхищается, не изумляется. В лидерах БНФ и БСД ("Г"— апошняя літара абрэвіятуры адсутнічае.—А.С.), поучающих народ как жить, хлопцы подобрались как на подбор. Все знают. Не все умеют... Да разве это так уж важно. Главное — предлагать".

Далей прагназіст Опачка распавядае аб апошняй з "прапаноў" спадара Трусава, аб ягонай ідэі стварэння на Беларусі рыбалавецкага і гандлёвага флоту. Цытаваць надалей прагназіста Опачку — гэта значыць перапісваць у трэці раз радкі з "Народнай газеты" ад 26 лістапада мінулага года. Не будзем займацца адмываннем чужых ганарараў, лепей лапідарна і перыфразна сфармулюем лейтматыў артыкула прагназіста Опачкі, ягоныя сакраментальныя думкі: Трусаў —"у шляпе", таму Беларускі марскі флот не паплыве, а калі й паплыве,— дык не спыніцца.

Як там ні было ў прагнозе прагназіста Опачкі, але тэма стварэння ўласнага марскога флоту на Беларусі сама па сабе цікавая і наўрад ці залежыць, будзе або не "будет адмиралом всебелорусского флота" дэпутат Алег Трусаў. Вось таму мы і папрасілі шаноўнага Алега Анатольевіча распавесці аб тым, аб чым чытачы "Звязды" і "Народнай газеты" даведаліся крыху раней, чым наш чытач.

### Экспрэс-інтэрв'ю

**Кар."ЧЗ":–** *Звяздоўскі ды народнагазетаўскі артыкулы, вашыя выступленні на радыё кінулі ў грамадскае меркаванне зерне надзеі на тое, што ў хуткім часе Беларусь у складзе іншых 30 "сухапутных" дзяржаў свету здолее ўзняць свой марскі сцяг над уласнымі караблямі. Калі не ўлічваць вышчаранне "Пазіцыі" ды карыкатурку "Добрага вечара", ёсць іншыя, станоўчыя водгукі?*

**Алег Трусаў:–** Так. Мяне літаральна закідалі лістамі былыя і цяперашнія маракі, якія прагнуць удзельнічаць у стварэнні марскога флоту і працаваць на карысць Беларусі. Гэта капітаны, штурманы, партавікі, эканамісты, інжынеры. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якіх лёс закінуў працаваць на Балтыцы, Каспіі, на Чорным моры, на Ціхім акіяне і г.д.

**Кар."ЧЗ":–** *Гэтыя людзі згадзіліся мяняць месца жыхарства?*

**А.Т.:–** А ім і не трэба пераязджаць. Усе яны маюць кватэры на Беларусі, тут у іх сем'і. Пасля сваіх навігацый яны вяртаюцца дамоў, адпачываюць і — зноў у плаванне... пад чужым сцягам.

**Кар."ЧЗ":–** *І шмат такіх "прагнучых"?*

**А.Т.:–** На першыя 15—20 год кадраў хопіць цяперашніх. Прычым конкурс можа атрымацца такім: 4—5 чалавек на месца. А ў будучым... У будучым праблему падрыхтоўкі кадраў для айчыннага флоту можна вырашыць шляхам рэанімацыі Пінскай марской школы ДТСААФ, адзінай навучальнай установы ў рэспубліцы, якая рыхтавала спецыялістаў для надводнага флоту цяпер ужо не існуючага СССР. Па-другое, у нас ёсць пагадненні з адпаведнымі навучальнымі ўстановамі Адэсы, Калінінграда і Санкт-Пецярбурга аб тым, каб дасылаць туды на вучобу беларускіх юнакоў. Але паўтаруся, каб стаць на ногі, у беларускага марскога флоту хапае цяперашніх уласных вопытных кадраў.

**Кар."ЧЗ":–** *Алег Анатольевіч, у Вашых лістападаўскіх артыкулах у "Звяздзе" і "Народнай газеце" ўхіл робіцца на гістарычныя звесткі таго, што беларусы былі неблагімі навігатарамі і мелі свае факторыі ў Рызе і Крулеўцы (цяперашнім Калінінградзе). Урад і Саўмін рэспублікі заўважылі вашыя артыкулы? Зрабілі яны якія-небудзь захады, каб матэрыялізаваць вашыя з Міхасём Саўчанкам ідэі?*

**А.Т.:–** Натуральна, так. Калі абмяркоўвалася будучая структура Саўміна, прэм'ер Кебіч выказаўся за стварэнне ўпраўлення (па марскіх справах) пры Міністэрстве транспарту.

**Кар."ЧЗ":–** *Але ж у гэтым Міністэрстве ўжо ёсць упраўленне, якое займаецца справамі рачнога флоту. Хіба ў рачнікоў з маракамі не агульныя задачы?*

**А.Т.:–** Мяркуемае ўпраўленне марскога рыбалавецкага і гандлёвага флоту з цягам часу перарасце ў Марское міністэрства. І гэта залежыць ад актыўнасці нашых мізаўцаў. Міністэрства замежных спраў мела перагаворы са шведскімі калегамі. Тыя абяцалі грашовую дапамогу. Так што першым пунктам парадку дня з'яўляецца цяпер рэгістрацыя нашага марскога сцяга ў адпаведных міжнародных інстанцыях і дамаганне квоты на адлоў рыбы ў Сусветным Акіяне. Беларусь, якая з'яўляецца членам ААН, дэ-факта і дэ-юрэ можа карыстацца ўсімі правамі, якія абумоўлены Жэнеўскай канвенцыяй аб адкрытым моры 1958 года, Канвенцыяй аб транзітным гандлі ўнутрыкантынентальных дзяржаў 1965 года, а таксама Канвенцыяй ААН па марскому праву 1982 года, падпісанай 119 краінамі, якія маюць выхад да мора, а таксама тымі, якія не маюць. Беларусь прымала ўдзел у распрацоўцы апошняй канвенцыі і падпісала яе.

Апроч таго, вялікую перспектыву адкрывае перад намі прызнанне Латвіяй нашага права на транзіт беларускіх грузаў па яе тэрыторыі. Украіна, напрыклад, затрабавала ад нас за транспартаванне адной тоны калійнай солі па яе тэрыторыі 20 даляраў. Пры агульным кошце тоны калійнай солі — 60 даляраў — гэта не танна. Вось таму рыхтуецца навуковая канцэпцыя на пераарыентацыю беларускіх інтарэсаў з басейна Чорнага мора на Балтыйскі басейн. Канешне, латышам таксама трэба будзе плаціць, але значна меней. Бо мы знаходзімся бліжэй да Балтыкі, чым да Чорнага мора... Ужо сёлета рыбныя кансервы ў Рызе былі нашмат таннейшыя, чым у Мінску. І гэта пры тым, што сярэдняя цэны на прадукты харчавання ў Латвіі вышэйшыя за нашыя. У Калінінградзе круглы год можна набыць свежую рыбу, прычым не аднаго наймення. А ў нас? Калі вы апошні раз частаваліся свежай марской рыбай?

**Кар."ЧЗ":–** *Калі дрэвы былі вялікія і калі ракі на гары свісцелі... Што тычыцца мяне, дык мне хапіла б і той рыбы, ад якой бацька Мінскае мора ачышчае. Але вось чарнобыльскія дзеткі... Ім жа марскія прадукты харчавання патрэбны ў першую чаргу.*

**А.Т.:–** Гэта павінны ўсвядоміць усе тыя, хто дагэтуль спадзяваўся на добрую волю Масквы. А Расіі цяпер не да нас. Яна сама зубы на паліцы паклала. І гэта пры тым, што з'яўляецца самай багатай з дзяржаў СНД. Што ж тычыцца саюзнага флоту, дык ён з моцнай рукі Ельцына амаль цалкам перайшоў пад юрысдыкцыю Расіі.

**Кар."ЧЗ":–** *Абсурдная сітуацыя: цеплаход "Беларусь" ды авіяносец "Мінск" плаваюць пад расейскім сцягам?*

**А.Т.:–** Так. Калі іх яшчэ не перайменавалі... Дарэчы, з апошняй заявы генерал-палкоўніка Пятра Чавуса вынікае, што і ад ваенных суднаў Беларусь не адмовілася б. Якое ім знайсці скарыстанне? Яны б ахоўвалі нашыя рыбалавецкія ды транспартныя караблі пад час знаходжання іх у небяспечных марскіх зонах, некаторымі з якіх, напрыклад, з'яўляюцца Персідскі заліў або Паўднёва-Кітайскае мора... Але гэта далёкая перспектыва, хаця выключаць яе не трэба. Вось Манголія парупілася і, відаць, апярэдзіць Беларусь у справе рэгістрацыі свайго сцяга і атрыманні рыбалоўнай квоты, якую з поспехам і карысцю для сябе зможа перадаваць у арэнду Японіі альбо Паўночнай Карэі. Дарэчы, гэтым шляхам ужо пайшоў Казахстан, "завязаўшы" цесныя сувязі з Кітаем.

**Кар."ЧЗ":–** *Відаць, мангольскі гербавы вершнік скача хутчэй за нашу Пагоню! Або нашы чыноўнікі менш разбітныя ды больш разважлівыя. Можа атрымацца так, што Беларусь створыць свой марскі флот, а ён акажацца непрыбытковым?*

**А.Т.:–** Марская прадукцыя вельмі танная для тых, хто яе вырабляе і дарагая для тых, хто набывае. Каб наш марскі флот быў прыбытковым — патрэбны добры эканамічны разлік. У першую чаргу нам неабходны не столькі дыхтоўныя караблі, колькі моцныя эканамісты. Якія з алоўкам зробяць пераканаўчыя накіды адносна колькасці караблёў, іхняй спецыялізацыі і г.д. Такі эканаміст у маёй камандзе ёсць. Ён адпрацаваў 12 гадоў у латвійскім параходстве, ведае латышскую і англійскую мовы, спецыяліст экстра-класа. На жаль, па сямейных акалічнасцях быў вымушаны вярнуцца ў Мінск, дзе працуе інжынерам. Сумуе па моры і спадзяецца да яго вярнуцца. Але ўжо пад наскім сцягам.

**Кар."ЧЗ":–** *Што ж, пажадаем гэтым спадзяванням спраўдзіцца. Дзякуй за гутарку.*

### Дакументальны эпілог

На рабочым стале Алега Трусава тыя самыя лісты, якімі ён быў "закіданы" пасля сваіх выступленняў у друку і па радыё.

Вось толькі адзін з іх, які сведчыць, што ідэя стварэння марскога флоту Беларусі не чарговы пражэкт хлопцаў з БНФ і БСДГ (як гэта малююць іншыя прагназісты — адзавісты), а справа рэальная і патрабуючая ўвагі. Бо толькі той, хто думае аб заўтрашнім дні, можа называцца абраннікам народа. Тыя ж, хто марыць аб мінулым, хутчэй за ўсё апынуцца за бортам... не, не першага беларускага траўлера, за бортам будучыні. Бо будучыня падманных прагнозаў не даруе. Яна з іх смяецца.

**Андрэй Смірноў.**

### Ліст-дадатак

*Шаноўны Алег Анатольевіч!*

*Няхай гэты ліст будзе адным з галасоў "за" стварэнне марскога флоту Рэспублікі Беларусь і няхай справа, якой Вы займаецеся, завершыцца поспехам. Я не магу гаварыць ад імя ўсіх беларусаў-маракоў, але ўпэўнены, што пад маімі словамі падпісаліся б многія. Сем гадоў я аддаў марскім справам колішняга СССР, працаваў на судах розных тыпаў: ад транспартных і навукова-даследчых да рыбнапрамысловых.*

*І з якім бы экіпажам я ні працаваў, у кожным з іх пятую частку складалі беларусы. А гэта значыць, што з кадрамі праблем не будзе. Трэба стварыць свой флот, які б прыносіў вялікі прыбытак не толькі ў рублях, але і ў валюце...*

*Цяжкасцей будзе шмат. Дзе ўзяць судны, якая дзяржава або рэспубліка згодзіцца трымаць наш флот на сваёй тэрыторыі, матэрыяльна забяспечваць караблі і іхні рамонт? Адразу ўсяго не пералічыць, дый пачынаць прыйдзецца з нуля. Але пачынаць усё ж такі трэба. Неабходна толькі запазычыць лепшы вопыт, які назапашаны нашымі суседзямі і ствараўся дзесяцігоддзямі.*

*І яшчэ, трэба пераканаць людзей, што стварэнне свайго флоту пойдзе на карысць Рэспублікі Беларусь.*

*Крыху аб сабе:*

*Селядцоў Ігар Ягоравіч, 1958 года нараджэння, з 1964 года жыву ў Мінску. Штурман дальняга плавання. Працаваў на судах замежплавання ў Калінінградзе і Мурманску. Мой адрас: вул.Собінава, 18-2, тэл.32-99-24.*

*09.01.1992.*

## • Эксклюзіў

11 снежня ў Мінску знаходзіўся кіраўнік італьянскай фірмы Royal Trading Дж. Бярціні. На перагаворах вялася гутарка аб аказанні фірмай пасрэдніцкіх паслуг у збыце беларускай прадукцыі за мяжой.

12 снежня ў Мінску знаходзіўся Джоэл Бергсман, менеджэр праграмы па Еўропе Савета Міжнароднага Інвестыравання (ЗША). Ён прыбыў па ініцыятыве Сусветнага Банка.
Амерыканскія спецыялісты крытычна аднесліся да беларускага закона аб замежных інвестыцыях.
Беларускі бок выказаўся за давядзенне закона з дапамогай Савета да агульнапрынятага ў свеце ўзроўню.

З 15 па 20 снежня ў Мінску знаходзіліся 6 спецыялістаў Еўрапейскага аддзела па валютных і гандлёвых адносінах МВФ на чале з памочнікам дырэктара аддзела Пітарам Хоў.

16-17 снежня ў Мінску знаходзілася дэлегацыя пасольства Бельгіі ў СССР у складзе 3 чалавек на чале з эканамічным саветнікам пасольства спадаром Ш.Андрыянсенам. Мэтай візіту было знаёмства з палітыка-эканамічнай сітуацыяй і вывучэнне магчымасцей наладжвання прамога эканамічнага супрацоўніцтва. На перагаворах, у прыватнасці, закраналіся пытанні магчымага стварэння моцнасцяў па вытворчасці легкавых аўтамабіляў у РБ.

17-19 снежня ў Мінску знаходзілася дэлегацыя OPIC у складзе 7 чалавек на чале з асістэнтам Генеральнага савета спадаром Дэвідам Л.Канам.
У склад дэлегацыі ўваходзілі таксама намеснік дырэктара эканамічнага аддзела OPIC па справах у Савецкім Саюзе спадыня Барбара Грыфітс.
Абмяркоўваліся пытанні інвестыцыйнай палітыкі ў РБ. Любая дапамога з боку OPIC можа быць аказана толькі на аснове міждзяржаўных пагадненняў, якія сталі магчымымі толькі пасля прызнання Злучанымі Штатамі дзяржаўнасці Беларусі.

15-16 снежня ў Мінску знаходзіўся спецыяльны эмісар Міністэрства замежных спраў Вялікабрытаніі Л.В. Элярд. Візіт насіў характар знаёмства з мэтай інфармавання брытанскага МЗС і ўрада. Паводле звестак, сярод пытанняў, што цікавяць брытанскіх дыпламатаў, былі палітычная і эканамічная сітуацыі ў Беларусі і перш за ўсё – лёс ядзернай зброі на яе тэрыторыі.

18-19 снежня ў Мінску знаходзіўся генеральны прадстаўнік авіякампаніі "Люфтганза" ў Маскве спадар Бараклінг з мэтай абмеркавання маючага адбыцца адкрыцця прадстаўніц кампаніі ў Мінску. Вялася гаворка аб магчымым адкрыцці авіялініі кампаніі Германія—Беларусь у красавіку 1992 г.

18-20 снежня ў Мінску знаходзілася дэлегацыя КНР з 9 чалавек на чале з начальнікам упраўлення краін МВЭС КНР Чжоў Кэжэнэм. Мэтай візіту з'яўлялася выпрацоўка тэкста пагаднення па гандлёва-эканамічнаму і навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву паміж РБ і КНР.

Днямі ў Мінску прайшла беларуска-польская сустрэча прадпрымальнікаў. Мэта — выпрацоўка схемы, якая дазволіць больш плённа і выніҁова супрацоўнічаць незалежным структурам абедзвюх краін.

Мінскаму камерцыйнаму банку "Сотрудничество" (аднаму з двух на тэрыторыі былога Саюза, заснаваных Кампартыяй) пагражае ліквідацыя. 10 снежня ВС Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб нацыяналізацыі маёмасці КПБ, якая зводзіць да мінімуму шансы банка на выжыванне.

## • Экспрэс-рэпартаж

# Асечка законаў рынку

## Каму карысна, каб кілбаса каштавала 200 рублёў?

На дварэ вільготна, халадна і няўтульна. У крамах пуста, дорага і зло. Злуюцца прадаўцы на тое, што народу шмат, а тавару— наадварот, што людзі знерваваныя і што турбот з паперамі не абярэшся — талоны, купоны. Злуюцца пакупнікі на тое, што зарплаты маленькія, а цэны — ого! — вялізныя, што купіць няма чаго, а чэргі ля касы (зноўтакі — талоны, купоны) агромністыя. І што дзіўна — дарагія кілбасы амаль ніхто не бярэ, а яны ж маюць звычку з часам псавацца, кілбасная вытворчасць скарачаецца, а цэны застаюцца тыя ж самыя. Чаму?



На Маладзечанскім мясакамбінаце мне адказалі коратка: "Не ведаем. Не наша гэта справа, цэны". І паклалі трубку тэлефона, нават не прадставіўшыся. Загадчыца аддзела кілбас у "Цэнтральным" нават не здзівілася гэтаму пытанню.

— Што вы ў мяне пытаецеся — ідзіце да Шушкевіча і Кебіча. Я гэтыя цэны не ўстанаўліваю.

Старэнькі дзядок, заўважыўшы ў маёй руцэ чырвоную "корку" пасведчання, з натхненнем падтрымаў:

— Так, так, запытайце ў іх, скуль узяліся такія цэны. Гэта ж трэба — 200 рублёў кіло кілбасы!

(*Наша даведка: кошт вэнджаных і паўвэнджаных кілбас балансуе ў межах ад 108 да 225 рублёў за кілаграм*).

Прадаўшчыца завялася з паўабароту:

— А вы на мяне не крычыце, не я тыя цэны ўстанаўліваю.

— Разбяруцца, разбяруцца з вамі — куды нашыя грошы ідуць!— чарга нешта неразборліва загула ў падтрымку пенсіянера.

— А вы не перашкаджайце працаваць,— звярнулася яна да мяне.— Ідзіце са сваімі пытаннямі хоць у Міністэрства гандлю.

Пенсіянер працягваў абурацца, чарга стрымана згаджалася з яго абурэннем, прадаўшчыца злавалася, і мне давялося рэціравацца.

Толькі тэлефон кіраўніка ўпраўлення арганізацыі гандлю Міністэрства гандлю так і не адказаў на мае патрабавальныя званкі на працягу некалькіх дзён. Так і скончыўся няўдачай мой рэпартаж, у якім я спрабаваў даведацца: каму карысны такі вялікі кошт на кілбасу, якую не купляюць. Палітэканомія дае адказ — манаполіі. Толькі якой?

## • З дапаўненняў да інструкцыі аб парадку выдачы, захоўвання, уліку картак спажыўца і рэалізацыі тавараў па купонах

Пры выплаце грашовай кампенсацыі, прадугледжанай Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС", купоны выдаюцца ў размеры 100 працэнтаў атрымліваемай сумы, але не больш як 2500 рублёў на чалавека.

Пры выплаце работніку камандзіровачных расходаў, незалежна ад месца камандзіроўкі, поўнасцю забяспечваецца купонамі норма кампенсацыі сутачных.

Для замежных грамадзян пры абмене свабодна канверсуемай валюты на рублі па ўстаноўленаму курсу атрымліваюць купоны ў размеры 100 працэнтаў ад сумы разавага абмену, сума выдачы купонаў не павінна перавышаць 5000 рублёў.

Грамадзянам, якія атрымліваюць аліменты, купоны выдаюцца па месцы атрымання аліментаў у размеры 60 працэнтаў ад іх сумы, але не менш чым на 150 рублёў.

Пры атрыманні ў I квартале г.г. незапатрабаваных раней сум дапамог на дзяцей, якія прыпадаюць на шэраг месяцаў 1991 г., купонамі забяспечваюцца толькі дапамогі бягучага года.

Камісіям выканкомаў мясцовых Саветаў прадастаўляецца права ў парадку выключэння вырашаць у кожным канкрэтным выпадку пытанні дадатковай выдачы купонаў мнагадзетным сем'ям.

Удакладняецца пералік малочных прадуктаў, рэалізуемых з купонамі. Гэта – смятана, сыр, тварог, сырная маса, масла, малочныя кансервы, сухое малако, дзіцячыя сухія малочныя сумесі.

Дазволіць аблвыканкомам, Мінскаму гарвыканкому прымаць рашэнні аб рэалізацыі каўбас паўвэнджаных, цвёрдавэнджаных, мясавэнджаніны з частковым забіраннем купонаў, але не менш як 50 працэнтаў ад кошту пакупкі.




Малюнак П.Сіманава.

## • Законы

З прыходам новага года мы атрымалі свабодныя цэны, невялікае павышэнне заробку і новы закон "Аб падаходным падатку з грамадзян", які абкладае вылічэннямі гэтыя заробкі. Вось некаторыя вытрымкі з новага закона.

I. Падаткаабкладанне сум заробкаў, якія атрымліваюць грамадзяне за выкананне імі працоўных абавязкаў, і прыраўнаваных да іх даходаў:

| Размер месячнага даходу | Сума падатку |
|---|---|
| ад 351 да 3500 руб. | 12 % з сумы, якая перавышае 350 руб. |
| ад 3501 да 5000 руб. | 378 руб.+15% з сумы,якая перавышае 3500 руб. |
| ад 5001 да 7000 руб. | 603 руб.+20% з сумы,якая перавышае 5000 руб. |
| ад 7001 да 10000 руб. | 1003 руб.+30% з сумы,якая перавышае 7000 руб. |
| ад 10001 руб.і вышэй | 1903 руб.+50% з сумы, якая перавышае 10000 руб. |

II.Падаткаабкладанне даходаў, якія атрымліваюцца ад выканання разавых работ і іншых выплат не па месцы асноўнай работы:

| Сума падатку | Размер месячнага даходу |
|---|---|
| ад 30 да 750 руб. | 12% з сумы даходу |
| ад 751 да 3000 руб. | 90 руб.+15% з сумы, якая перавышае 750 руб. |
| ад 3001 да 4500 руб. | 427 руб.50 кап.+20% з сумы, якая перавышае 3000 руб. |
| ад 4501 да 6000 руб. | 727 руб.50 кап.+30% з сумы, якая перавышае 4500 руб. |
| ад 6001 руб. і вышэй | 1177 руб.50 кап.+ 50% з сумы, якая перавышае 6000 руб. |

III. Падаткаабкладанне сум аўтарскіх узнагароджанняў:

| Размер месячнага даходу | Сума падатку |
|---|---|
| да 4200 руб. | 4% з сумы даходу |
| ад 4201 да 8400 руб. | 168 руб.+8% з сумы,якая перавышае 4200 руб. |
| ад 8401 да 42 000 руб. | 504 руб.+12% з сумы,якая перавышае 8400 руб. |
| ад 42001 да 60 000 руб. | 4536 руб.+ 15% з сумы, якая перавышае 42000 руб. |
| ад 60001 да 84000 руб. | 7236 руб.+20% з сумы, якая перавышае 60000 руб.. |
| ад 84001 да 120000 руб. | 12036 руб.+30% з сумы, якая перавышае 84000 руб. |
| ад 120001 руб. і вышэй | 22836 руб.+50% з сумы, якая перавышае 120000 руб. |

IУ. Парадак падаткаабкладання даходаў ад прадпрымальніцкай дзейнасці:

| Размер месячнага даходу | Сума падатку |
|---|---|
| да 42000 руб. | У размеры, роўным суме падатку, які выплачваецца за адпаведную колькасць месяцаў рабочымі і служачымі па стаўках табліцы № 1 у выпадку адсутнасці месца асноўнай работы або па стаўках табліцы № 2 у выпадку, калі ёсць месца асноўнай работы |
| ад 42001 да 60000 руб. | 4536 руб.+15% з сумы,якая перавышае 42000 руб. |
| ад 60001 да 84000 руб. | 7236 руб.+20% з сумы,якая перавышае 60000 руб. |
| ад 84001 да 120000 руб. | 12036 руб.+30% з сумы, якая перавышае 84000 руб. |
| ад 120001 руб.і вышэй | 22836 руб.+50% з сумы, якая перавышае 120000 руб. |

Для тых, хто цікавіцца законам, раім азнаёміцца з яго поўным зместам ("Звязда",16.01.92), тым больш, што як "чціва" гэта даволі займальная і павучальная рэч. Ну, а на тое, ці нясе ў сабе новы Закон новы стымул працаваць – адкажа час.

Старонку падрыхтаваў аглядальнік "ЧЗ" па пытаннях эканомікі Зміцер Лукашук.





# ДАЙ, БОЖА, ВЫЖЫЦЬ!

На двары год "чорнай" малпы. Год лібералізацыі цэн і ўсталявання рыначных адносін. Год высокіх коштаў і нізкіх зарплат. Год вялікіх чэргаў і пустых паліц. Цяжкі, карацей кажучы, год. Пра гэта кажуць паўсюль і думаюць штохвілінна. А ці заўжды яно апраўданае, тое павышэнне, што маем мы сёння? Спытайце пра гэта ў кіроўцаў таксі, доўгім ланцугом застылых у чаканні пасажыраў. Але пасажыры нават не звяртаюць на гэта ўвагі, спяшаючыся на метро або тралейбус. Аб чым думае пазбаўлены заробку таксіст?

Шмат людзей, і да таго часу карыстаўшыхся мінімальнай спажывецкай карзінай, засталіся за мяжой беднасці. Што набудзе бабуля за сваю пенсію, акрамя бутэлькі малака і паўбатона? Ці ёй азіраць вітрыны з кілбасой па 200 і болей рублёў?

Добра толькі тым, для каго галоўнае, каб было ў свабодным продажы піва (няхай сабе і па 6 рублёў бутэлька), і тым, хто паспеў вызначыць сваё месца ў "пераходзе" да рынку.

Шкада, апошніх яшчэ няшмат, не знайшоўшых свайго месца сярод рыначных адносін і свабодцэн. І таму — шарахаюцца, як ад д'ябла, людзі ад этыкетак з цэнамі і шукаюць шчасця на "таўкучках". Чаму навучыць гэта жыццё вас, дзеці. І які шрам накладзе на душу рэчаіснасць свядомым людзям. Хто ведае? А той, хто ведае, ці скажа? Дай, Божа, выжыць.

**Фота С.Брушко.**









# "Фантамас" супраць Васіля Быкава

*Гэта мая ўласная думка, а значыць, яна можа быць памылковай:"беларусізацыі" на словах і на паперы ў нас больш чым дастаткова, а вось на справе яе няма зусім. Напэўна, прадбачлівыя прагназісты "хуткай павальнай беларусізацыі", авалодаўшы добрым дзесяткам беларускіх слоў, ураз абурацца, маўляў, што яна такое гаворыць: ужо і закон адпаведны прыняты і дзяржаўная незалежнасць набыта, засталося толькі самае маленькае — каб народ на сваёй мове загаварыў.*

*Ну, для пачатку, скажам, хаця б зачытаў.*

Калі прайсціся па нашых кнігарнях, можна лёгка прыйсці да такой сумнай высновы: беларускасцю ў народзе і не пахне. Беларус купляе "Сакрэты радасці" і "давіцца" за "Анжалікай", шукае "Фантамаса" і ніколі не ўпусціць Чэйза. А цудоўны Васіль Быкаў і яго беларускамоўны "Кар'ер" чакаюць свайго з 1987 года. Дарэчы, кніг на нашай мове апошнім часам выдаецца ўсё менш, а сярод выдадзеных раней, яшчэ ў час пачатку прыняцця курса на беларусізацыю", многія сёння "аддаюцца" задарма. Ну, напрыклад, Васіля Гігевіча і яго "Астравы на далёкіх азёрах" можна набыць за адзін толькі рубель, а Уладзімір Рубанаў з яго "Цёплым пухам адуванчыкаў" і таго не каштуе — 75 капеек.

Спачатку трохі засумнявалася: можа не ў мове справа, а ў самой кнізе. На шчасце, усе сумненні развеяла прадаўшчыца:"Вот русскоязычный вариант "Зарубежного детектива" сразу размели, а белорусский лежит..."

Намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання Белкніга А.С.Сліжова таксама згаджаецца — расейскамоўным кнігам лягчэй. Бо народ, упэўнена Аксана Сяргееўна, беларускай мовай не валодае. А таму, лічыць яна, трэба больш выпускаць розных слоўнікаў — расейска-беларускіх, тлумачальных. Менавіта яны апошнім часам і карыстаюцца попытам.

— Але, відаць, усё ж не такім, як замежныя дэтэктывы і фантастыка?— пытаюся у А.С.Сліжовай?

— Так. Сапраўды дэтэктывы, фантастыка рэалізуюцца імгненна. Паспяхова ідуць таксама розныя энцыклапедыі, кнігі, прысвечаныя хатнім справам — кулінарыя, шыццё, вязанне, прысядзібныя надзелы. Што тычыцца беларускіх кніг, то ў 1991 годзе частка іх увогуле не ўбачыла свету з-за недахопу паперы. А іх значнасць і неабходнасць аб'яднанне "Белкніга" добра разумее. Аднак, як гэта не балюча, беларуская кніга сёння залежваецца. А, значыць, мы павінны плаціць за яе крэдыт. І каб не быць стратнымі, трэба звяртацца да так званай "масавай культуры". Дарэчы, па найменаваннях яна прадстаўлена нешырока, а вось па тыражу...

Так, чэйзаўскім тыражам пазайздросціць сёння самая высокамастацкая кніга. Нават калі яна на расейскай мове. Можа і сапраўды нашым галодным страўнікам каляровая заморская прыгажосць больш даспадобы?

— На жаль, сёння папулярнасцю карыстаюцца кнігі, якія не толькі не маюць ніякага дачынення да беларускай культуры, але і да культуры ўвогуле,— лічыць галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" С.І.Андраюк.—За 1991 год кніг на роднай мове выйшла менш і па назвах і па тыражу. Вядомая праблема — папера — мне здаецца, усё ж не самай страшнай. Няма спажыўца нацыянальнага багацця — вось што непакоіць перш за ўсё. І калі мы сёння гаворым пра беларусізацыю, то трэба шчыра прызнаць: яна магчыма толькі пры сур'ёзных дзяржаўных клопатах. У адваротным выпадку бязлітасны рынак не дасць ёй і ўздыхнуць, бо беларусізацыя і рынак — рэчы несумяшчальныя.

Безабаронная беларуская кніга шукае сёння арыенціры ў бяздонным рыначным моры. Суверэнная дзяржава Беларусь! Тваю нацыянальную годнасць не выратуе дэтэктыў Чэйз і даўганогая прыгажуня — Анжэліка. Дык можа не заўсёды выратаванне тых, хто тоне — гэта справа рук саміх жа тапельцаў?

**Майя Шэндрык,**
**аглядальнік "ЧЗ"**
**па пытаннях культуры.**




# СІЛКОМ У РАЙ

*Перанясёмся ў новую краіну. Хай толькі ў марах адчуем сябе сапраўднымі грамадзянамі сапраўды беларускай Беларусі. Няўжо паспеем яшчэ ўбачыць яе такой?..*

*Пётр Іванавіч Брыгадзін, прарэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта па вучэбнай рабоце, лічыць, што паспеем. Ва ўсялякім выпадку, родны БДУ, бо ён, універсітэт, адукацыйны і культурны цэнтр, павінен паспяваць на два крокі хутчэй, чым усеастатнія.*

**— Ці лічыце вы абавязковай умовай "беларусізаванага" універсітэта тое, што ўсе тут пачнуць размаўляць выключна па-беларуску?**

— Не, я не думаю, што гэта абавязкова для ўсіх. Для адміністрацыі — так. Але ў кожнага павінна заставацца права выбару.

**— А якім уяўляецца вам "беларусізаваны" універсітэт?**

— Перш за ўсё — установай высокаінтэлектуальных людзей. Я бачу гэта нават па-за сувяззю з мовай, хаця яна, як сродак зносін і як выражэнне нашай культуры, павінна абавязкова прысутнічаць. Без яе мы сябе збядняем. Я перакана్ны, што сёння мы павінны валодаць не толькі беларускай і рускай мовамі. Мы павінны ведаць мовы суседзяў — польскую, украінскую, літоўскую, а таксама замежныя. Гэта стане рэальнасцю, калі адкрыюцца границы, будуць зняты абмежаванні на выезд, калі мы адчуем, што ўключыліся ў сусветную суполку. Тады не спатрэбіцца нікога прымушаць; веданне трох моў, як мінімум, стане такім жа натуральным, якім яно было для рускіх дваран.

**— А ўвогуле, тэрмін "беларусізацыя" прымальны для вас?**

— Ён застаўся нам ад 20-х гадоў, калі беларусізацыя ажыццяўлялася больш валявымі метадамі. Але сённяшнія прыёмы шмат у чым нагадваюць тыя... Мне не вельмі падабаецца гэты тэрмін. Працэс, пра які мы гаворым, я б назваў лепш развіццём нацыянальнай культуры ці нацыянальным адраджэннем, ці фарміраваннем нацыянальнай самасвядомасці.

**— Сёння часта параўноўваюць наш час і 20-я гады з рознай нагоды. Тады беларусізацыю ажыццявілі ва універсітэце на 14 працэнтаў. Нявыкананай засталася ў тым ліку і такая задача: да 1 кастрычніка 1926 года ўсе выкладчыкі, супрацоўнікі і асістэнты БДУ павінны былі вывучыць беларускую мову. Вы ўжо адзначылі, што тагачасныя метады часцяком нагадваюць сённяшнія. Значыць, і вынік можа паўтарыцца... Дзе ж выратавальнае выйсце?**

— Тады нацыянальная беларуская інтэлігенцыя была нешматлікай. Усе выкладчыкі універсітэта былі запрошаны з іншых мясцін. І было пэўнае глухое супраціўленне мерам па беларусізацыі БДУ. Сёння ж асноўная маса тых, хто працуе і вучыцца ва універсітэце — карэнныя беларусы. Ім павінна быць лягчэй.

**— Сённяшні працэс беларусізацыі пачаўся ва універсітэце перш за ўсё дзякуючы з'яўленню Закона "Аб мовах..."?**

— Так, гэта быў моцны штуршок. Але і да яго рух назіраўся. Без сігналу "зверху" было створана Таварыства беларускай мовы, якое сёння налічвае каля тысячы членаў, былі арганізаваны гурткі па вывучэнню беларускай мовы на многіх факультэтах, праводзіліся беларускія народныя святы дзякуючы намаганням энтузіястаў. Створана беларускамоўнае аддзяленне на гістарычным факультэце. Самі студэнты мехмата прапанавалі ўвесці для іх курсавы экзамен па беларускай мове — каб мець магчымасць выкладаць у беларускамоўных школах. Апошні прыклад — стварэнне "Хаўруса беларускамоўных студэнтаў БДУ". Адна з мер — стварэнне ў 1992 годзе беларускамоўных плыняў на геаграфічным, юрыдычным, фізічным, механіка-матэматычным, біялагічным і хімічным факультэтах. Справа не ў колькасці і не ў тэрмінах. Пачаць трэба з невялікіх аддзяленняў, няхай сабе па 30 чалавек. Тое ж самае — з пераходам да выкладання на беларускай мове ўсіх вучэбных дысцыплін на педагагічных аддзяленнях, а таксама на факультэце журналістыкі і юрыдычным, які плануецца ажыццявіць да 1996 года.

Але ж нас ужо крытыкуюць за тое, што не спяшаемся! На апошнім пасяджэнні вучонага савета выступаў старшыня камісіі, якая займалася праверкай выканання вышэйшымі навучальнымі ўстановамі рэспублікі Закона "Аб мовах...", ён прапанаваў ледзь не рэарганізаваць нашу ВНУ за тое, што адстаём ад іншых у справе беларусізацыі. А мы ж ні з кім не спаборнічаем! Спешка і імкненне да вынікаў любой цаной могуць зноў прывесці нас да зваротнага эфекту. Нам трэба памятаць не толькі пра паступовасць, але і пра дыферэнцыраванасць падыходу. Так, сёння цэлы шэраг курсаў трэба перакладаць не на беларускую, а на англійскую мову, бо на ёй прапануюцца апошнія навуковыя дасягненні многіх навук.

Я вельмі баюся прафанацыі. Столькі разоў нас ужо спрабавалі накіраваць сілком у рай. Паўтарэнне гэтага вельмі абразлівае для мяне асабіста.

**— А якім павінен быць наступны этап?**

— Ён прадугледжвае не толькі стварэнне падручнікаў і распрацоўку тэрміналогіі і методыкі выкладання. Перш за ўсё павінна сфарміравацца беларускамоўнае асяроддзе. Яно ўключае ў сябе і універсітэцкія інтэр'еры, і справаводства на беларускай мове, і далучэнне маладых да народных традыцый — далучэнне да культуры ў шырокім сэнсе. Я наогул у многім атаясамліваю далучэнне да нацыянальнага з эстэтызацыяй асяроддзя.

**— Ці можаце вы прадказаць, калі навокал будзе гучаць беларуская мова?**

— Пэўна, праз пакаленне. Мова таму і завецца матчынай, што павінна заставацца дзецям ад іх бацькоў. Вось калі нашы дзеці будуць гаварыць са сваімі па-беларуску, тады родную мову пачнуць выкарыстоўваць усе.

**Гутарку вяла**
**В.Бягун.**

Гістарычны нарыс

*Што такое Рэч Паспалітая? На гэтае пытанне абывацель адкажа: "Рэч Паспалітая — гэта старажытная польская дзяржава, у склад якой уваходзіла Беларусь, пры гэтым не па сваёй ахвоце, а пад прымусам..." На жаль, такі стэрэатып вельмі пашыраны ў нашым грамадстве. І вінаваты ў гэтым не толькі савецкія навучальныя ды навуковыя ўстановы. Перапіс нашай гісторыі пачаўся яшчэ з XIX ст., калі царскія саноўнікі імкнуліся даказаць, што беларусы не мелі сваёй дзяржаўнасці, сваёй гісторыі, што гэты народ ледзь не з часоў Кіеўскай Русі знаходзіўся пад чыім-небудзь прымусам, і толькі Расія вызваліла яго з-пад гэтага прыгнёту і ашчаслівіла, прыяднаўшы да сябе.*

# РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ

## Шлях да Рэчы Паспалітай

Гісторыя ўтварэння Рэчы Паспалітай пачынаецца задоўга да Люблінскай уніі. Яе карані бяруць пачатак у XIV ст., калі польскае гаспадарства — Карона Польская, ды беларускае гаспадарства — Вялікае Княства Літоўскае жылі не толькі паасобку, але й нават ваявалі адзін з адным. Так, са старажытных хронік (Іпацьеўская, Вялікіх князей літоўскіх, Хроніка Быхаўца) — вядома, як вялікія князі рабілі вынішчальныя паходы на Польшчу. Асабліва моцна дапёк палякаў Ягайла, які, як піша летапісец, "сплюндраваў" землі польскія ажно да Кракава. Мяжа тады, паміж Княствам ды Каронай, праходзіла ледзь не па самой Вісле. Весткі ж некаторых гісторыкаў, што Польшча на той час знаходзілася на больш высокім узроўні, не вытрымліваюць крытыкі. Тады Польшча ўжо страціла шмат сваіх зямель (Сілезія, Памор'е, частку Мазовіі). Германская агрэсія дасягнула свайго найвышэйшага ўзроўню. У польскіх гарадах панавалі нямецкія гандляры, бурмістры, ксяндзы. Моцны ўплыў мела нямецкая партыя пры каралеўскім двары.

Вялікае ж княства Літоўскае ў выніку паходаў Альгерда квітнела як ніколі. Тэрыторыю мела ад Балтыйскага мора да Чорнага і ад Карпат да Акі. Дзяржава мела добра ўладкаваную ўнутраную структуру, па якой кожны край меў аўтаномію, але адначасова падпарадкоўваўся вялікакняскай уладзе.

Але была і адна небяспека — Тэўтонскі Ордэн. А к канцу XIV ст. над Княствам навісла яшчэ больш небяспечная пагроза — агульнаеўрапейскі крыжовы паход на Усход. Пры гэтым Польшчы адводзілася роля адной з ударных частак крыжаносцаў.

Аднак не ўсе ў Польшчы былі згодны падпарадкоўвацца нямецкай волі. Пры каралеўскім двары ў Вавелі мелася моцная пралітоўская група магнатаў, якая вырашыла, што лепш шукаць з Літвою міру, чымся вайны. У Літве яны бачылі сродак вызвалення ад прагерманскіх уплываў.

У той жа час Польшча стаяла перад выбарам — за каго выдаць каралеву Ядвігу? Ад гэтага залежаў увесь наступны лёс дзяржавы. Перамагла пралітоўская групоўка,Ягайла ажаніўся з Ядвігай і стаў аднчасова каралём Польшчы. А 14 жніўня 1385 г. была падпісана Крэўская ўнія, паводле якой Карона ды Княства абяцалі жыць у згодзе ды дапамагаць адзін аднаму на вайне. Фактычна Вялікае Княства падпарадкавала Польшчу сваім палітычным інтарэсам.

Але юрыдычна Каралеўства стаяла вышэй за Княства. Больш таго, Ягайла здрадзіў сваёй бацькаўшчыне, вырашыўшы зліць дзве дзяржавы ў адну.

Усё гэта прывяло да грамадзянскай вайны. Супраць выступіў князь Вітаўт. У рэшце рэшт перамагла ідэя канфедэратыўнай уніі. Вітаўт стаў Вялікім князем літоўскім і ў 1413 г. заключыў з Ягайлам Гарадзельскую ўнію. А каб яшчэ болей узвысіць палітычную вагу Княства, ён у 1430 г. вырашыў каранавацца. Ужо з'ехаліся на каранацыю знакамітыя герцагі, князі, каралі; ужо везлі на Літву асвенчаную Папам рымскім карону. Але палякі перахапілі ды пасеклі гэтую карону. Ягайла не змог сцярпець таго, што Літва ператвараецца з лідэра дэ-факта ў лідэра дэ-юрэ. Канешне, ганцы заказалі новую карону, але Вітаўт, якому ў той год споўнілася 80 гадоў, не дачакаўся і памёр.

## Утварэнне Рэчы Паспалітай

Пры Жыгімонце Аўгусце польская шляхта зрабіла новую спробу ператварэння канфедэратыўнай уніі ў федэратыўную. А момант для нашых продкаў быў самы нязручны... ішла ўпартая барацьба з Маскоўскім Царствам за ўсходнія землі Беларусі. З переменным поспехам ідуць войны праз усё XVI ст. А ў 1561 г. пачынаецца так званая "Лівонская вайна", распачатая Іванам IV Грозным. Лівонія папрасіла паратунку ў Княства ад Маскоўскай навалы. Княства дапамагло Лівоніі, што ўратавала апошнюю ад вынішчэння. Тады ў 1563 г. Іван Грозны рушыў 250-тысячнае войска на Беларусь. Узяў Полацк у аблогу, папаліў увесь пасад, штурмам захапіў крэпасць.

А на поўдні актывізаваліся крымскія татары з туркамі. З поўначы — шведы. І вось, у такі змрочны час, на просьбу беларускага магнацтва аб фінансавай ды вайсковай дапамозе, польскія палітыкі распачалі перамовы аб пераглядзе ўніі.

Некалькі гадоў ішлі гэтыя перамовы без канкрэтных вынікаў, пакуль 10 студзеня 1569 г. у Любліне не сабраўся агульны Сойм беларускага ды польскага магнацтва са шляхецтвам. На гэтым Сойме палякі, апіраючыся на тое, што ўкраінская шляхта цягнулася да Польшчы, папрасілі апошняга з Ягайлавічаў падараваць Валынь і Падолле Кароне Польскай. Жыгімонт гэтак і зрабіў, нягледзячы на бурныя пратэсты беларускай дэпутацыі. Але, зразумеўшы, што палякі на гэтым Сойме, перацягнуўшы на свой бок Караля ды ўкраінскую дэпутацыю, аказаліся ў большасці і што ўсё роўна трэба было ад кагосьці атрымаць дапамогу ў вайне, ліцвіны згадзіліся падпісаць умовы Люблінскай уніі.

Згодна з яе артыкуламі, Вялікае Княства Літоўскае ды Карона Польская злучаліся ў адзіную федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Абіраць караля цяпер павінны былі абодва народы разам, на Вальным Сойме ў Варшаве. Княства не мела права абраць сабе асобнага гаспадара — Вялікага князя. Гэтая пасада навекі злучалася з каралеўскай і менавалася так: "Кароль польскі, Вялікі князь Літоўскі (беларускі) і Рускі (украінскі)." Грашовыя знакі павінны былі замяняцца на злотыя. Мяжа паміж Польшчай і Літвой павінна была знікнуць. Падданыя дзвюх краін мелі права купляць ды ўладаць нерухомай маёмасцю ў той ды ў другой краіне. Заканадаўчым органам Рэчы Паспалітай павінен быў стаць Вальны Сойм. Кожная з краін захоўвала свае войскі, законы ды некаторыя з важнейшых дзяржаўных пасад. Аднак палякі нядоўга адзначалі сваю перамогу...

Як толькі з Масквою было заключана пагадненне, беларускае магнацтва перайшло ў контрнаступленне. Узначаліў яго Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега — знакаміты палкаводзец, філосаф ды грамадскі дзеяч. У 1588 г. Вальны Сойм Княства зацвердзіў новы — III Статут, які вымушаны быў падпісаць кароль. Згодна з гэтым Статутам, Польшча абвяшчалася замежнай тэрыторыяй, аднаўляліся межы з таможнямі, абмяжоўваліся правы ўсіх чужынцаў, у тым ліку і палякаў. На дзяржаўныя пасады абіраліся толькі "родзічы", гэта значыцца жыхары Княства. Дзяржаўнай моваў абвяшчалася старабеларуская. А Берасцейскі ды Віленскі манетныя двары працягвалі эмісію беларускіх грошаў, якія былі значна цяжэйшымі за польскія злотыя.

## Знішчэнне Рэчы Паспалітай

У канцы XVIII ст. Рэч Паспалітая перажывае палітычны крызіс. Вельмі шкоднае правіла "Liberym Veto" яшчэ ў XVII ст. пранікла ва ўсе заканадаўчыя ўстановы як Кароны Польскай, так і Вялікага Княства Літоўскага, нават на Павятовых Сойміках кожны шляхцюк меў гэтае права — як сымбаль дэмакратыі і свайго грамадзянскага гонару. З-за гэтага з 50-ці апошніх Сеймаў Рэчы Паспалітай толькі 7 скончыліся аднагалоснай падтрымкай. І гэтая практыка вяла не толькі да юрыдычнага, эканамічнага ды ваеннага застою, але і да агрэсіі з боку сумежных дзяржаў. Суседзі нашыя мацнелі, а мы заставаліся практычна на ўзроўні XVII ст. Таму нядзіўна, што Расія, Прусія ды Аўстрыя вельмі ціха ды хутка правялі першы падзел Рэчы Паспалітай у 1772 г.

У палітычных колах беларускага ды польскага грамадства пачалася сапраўдная паніка. Склікалі новы Вальны Сойм, які засядаў ажно чатыры гады, за што займеў назву "доўгі". На ім было прынята вельмі шмат слушных законаў аб рэфарміраванні арміі, эканомікі, дзяржаўных структур, але галоўнае аб ліквідацыі права "Liberym Veto". Ды Расія з Прусіяй у 1794 г. другі раз падзялілі Рэч Паспалітую. Але рэфарматары паспелі прыняць Канстытуцыю 3 мая 1791 г. Згодна з гэтай канстытуцыяй, Княства і Карона зноў абвяшчаліся ўнітарнай дзяржавай.

Чаму беларуская дэпутацыя пайшла на гэты крок, зразумела. Успомніце часы Люблінскай уніі, калі 250-тысячная маскоўская армія стаяла пад Полацкам.У 1791 г. сітуацыя была яшчэ горшай, бо ва ўсходніх землях Беларусі стаяла ўжо 300-тысячная расейская армія. І яшчэ такія ж арміі мелі Аўстрыя ды Прусія.

Успыхнула вызваленчая вайна. Узначаліў яе Касцюшка — беларус па паходжанню. І вось тут узнікае адказ на пытанне аб сапраўдных жаданнях беларускага грамадства.У Вільні — тагачаснай сталіцы беларускай дзяржавы, узнікае незалежная беларуская Рада, якой кіраваў Якуб Ясінскі — гарачы патрыёт Вялікага Княства. Касцюшка нават напісаў яму ліст з абвінавачваннем у сепаратызме. Але ў 1795 г. пасля разгрому войск Касцюшкі і правядзення трэцяга падзелу, наогул знікае не толькі Рэч Паспалітая, але й самі Карона ды Княства.

Але далейшая дзейнасць паўстанцаў 1831 ды 1863 гг. відавочна даказвае існаванне неўміручай прагі беларускага грамадства да адраджэння велічы ды магутнасці Вялікага Княства Літоўскага, як і да захавання Рэчы Паспалітай — як канфедэратыўнага злучэння дзвюх незалежных дзяржаў.

Даказвае гэта і тое, што на тэрыторыі Беларусі ажно да 1840 г. дзейнічаў Статут 1588 г. Вялікага Княства Літоўскага. А гэта факт, які сам па сабе з'яўляецца доказам адмаўлення ад дэкларавання уніфікацыі 1791 г.

Такім чынам, шаноўны чытач можа сам зрабіць вывады, чым была дзеля нашага народа Рэч Паспалітая. Нам жа здаецца, што асноўнай функцыяй Рэчы Паспалітай была абарона незалежнасці Польшчы ды Літвы (Беларусі), і гэта яна паспяхова ажыццяўляла на працягу чатырохсот стагоддзяў, пачынаючы з часоў Крэўскай уніі.

Гісторыя мае намер паўтарыцца. І калі сёння ў нас узнікаюць праблемы замацавання палітычнай незалежнасці, калі зноў на ўсходзе з'явіліся пагрозлівыя шавіністычныя настроі, то, хочам мы гэтага ці не, неабходна абіраць сабе палітычных саюзнікаў, замацоўваць свае тылы.

Адраджэнне ідэі палітычнага блока незалежных, роўных краін, пад назвай Рэч Паспалітая і перш-наперш заключэнне пагаднення аб эканамічнай, палітычнай і ваеннай дапамозе паміж Польшчай ды Беларуссю, пры адмаўленні ад гегеманісцкіх памкненняў, мы лічым слушнай ды вартай увагі нашых сённяшніх ды заўтрашніх палітыкаў.

**Алесь Моргун,**
**Алесь Шавель.**

## Скачыце — неўпадзіце!

**Ад сённяшняга жыцця так і ахвота кінуцца ў скокі... Выбірайце: нашыя падыспань, полька, кракавяк ці латышскія эйлэндэрс, трыпінь-полька? Выбар настаўнікаў танцаў таксама вялікі: менскія гурты "Ліцьвіны", "Голас", "Дзяньніца", "Кэмэлот", рыжскія "Аўры", "Лыепавуот"... Незвычайнае песеннае і танцавальнае багацце чакае вас у нядзелю, 2 лютага, а 18 гадзіне ў Доме літаратара,на вечарыне маладзёжнай арганізацыі "Выбранецкія шыхты".**

**Ігар Міхно.**




# БЕЛАРУСКІ КА

1/19. (студзеня па ст.ст.) Ігнат[1] ("На святога Ігната зіма багата").

2/20. Срэценне, Грамніцы ("Як на Грамніцы адліга — з ураджаю будзе фіга", "На Срэценне зіма з летам сустракаецца").

5/23. Агата ("Агаты бароніць ад агня хаты").

6/24. Аксіння, Ксеня("Калі да Аксені мяце, то ўвесь корм падмяце").Дарота ("Па Дароце высахнуць хусты на плоце").

9/27. Іван Залатавус. Згодна з легендай, замест падпаленых вусоў Бог падарыў Івану Хрысціцелю залатыя.

11/29. Ігнат. ("На святога Ігната зіма багата, а Ігнат Грамніцам рад").

14/1. (лютага па ст.ст.) Грамнічны бацька — пярэдадзень Грамніц. Рыхтавалі свечкі. Трыфан ("На Трыфана зорна — вясна позняя").

15/2. Грамніцы, Стрэчанне — дзень сустрэчы зімы з летам, свята свечкі ("Грамніцы— палавіна зіміцы", "А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне, зіма з летам стрэлася, стрэлася...").

16/3. Пачатак *Дзедавага (Памінальнага, Усяяднага) тыдня (Памінальніца), дзесяты тыдзень перад Вялікаднем, прысвечаны "дзядам". Пра снежныя завеі ў пачатку тыдня гаварылі "Ета Усяядная ў госці едзя". Калі "вея" (мяцеліца) была ў нядзелю, то авёс неабходна сеяць на дзевятым тыдні ад Вялікадня (Смаленшчына).

17/4. Панядзелак *Усяяднага тыдня. Беларусы Смаленшчыны лічылі, калі "вея" будзе ў панядзелак, то авёс неабходна сеяць на восьмым тыдні.

18/5. Агата ("Хлеб святой Агаты не пусціць бяды да хаты").

19/6. Вакулы — ахоўнік чалавека ад ператварэння яго ў ваўкалака. Серада *Усяяднага тыдня. Калі "вея" будзе ў гэты дзень і наступны, то на Смаленшчыне гаварылі:"Пакіньце дзісяцінкі дзве", што азначала, мусіць, яшчэ раней.

21/8. *Дзяды на Смаленшчыне. Не працавалі, каб не пашкодзіць "мёртвым душам".

22/9. *Дзяды, працяг памінальных дзён. "Ета із гасцей Усяядная едзя" (пра мяцеліцу ў канцы тыдня).

23/10. Прохар ("Прыйшоў Прохар ды Улас — скора вясна ў нас").

24/11. Улас, Аўлас —"каровіна і конскае свята".Сухі дзень, Мацей ("На Мацея зіма пацея").

26/13. Фаціння — заступніца ад ліхаманак, трасцы.

28/15. *Масленічныя (Мясаедныя) Дзяды, Дзедава пятніца, памінальны дзень перад Масленічным тыднем.

29/16. *Дзедава субота, Бабы, Мясапустная, субота дзевятага перадвелікоднага тыдня ("Дзяды не знали бяды, а нашы ўнукі набраліся мукі").

---

[1] Гэтак выдзелены святы і прысвяткі беларусаў-католікаў.

* Зорачкай абазначаны каляндарныя дні, якія не маюць пастаяннага месца, а залежаць ад Вялікадня.

# Чараўніцы жывуць на Палессі

(Працяг. Пачатак у № 52, 1991г.).

Магічныя прыёмы знахароў часам паляпшаюць стан хворага таму, што яны ўздзейнічаюць на яго псіхіку шляхам такіх натуральных з'яў, як унушэнне, самаўнушэнне, гіпноз. Гэта можа павялічваць абарончы патэнцыял арганізма, арганізоўваць дзейнасць нервовай сістэмы. Пра гэта можна прачытаць у папулярных медыцынскіх брашурах. Напрыклад, у кніжцы Рабушкіна М.В."Миф о союзе религии с медициной" (М.,"Медицина", 1969) і інш.

Часта знахары ў якасці лекаў прапануюць курыны памёт, сабачы кал, гарэлку, ртуць, бітае шкло або рэкамендуюць класці на галаву хворага манную кашу, яечню, пускаць у рот жабу і г.д. Нельга не заўважыць, што такія сродкі нават могуць прынесці шкоду здароўю. Хворы толькі змарнуе час, запусціць хваробу, несвоечасова звернецца да сапраўднага медыцынскага лячэння. Медыкі зазначаюць, што знахар можа прымусіць хворага не адчуваць боль, урач адхіляе прычыну з'яўлення болю. Сучасная медыцына надае вялікае значэнне лячэбным псіхічным фактарам, шырока выкарыстоўваючы ўнушэнне і гіпноз, але гэтыя сродкі, якія дапамагаюць папраўніцы, не абсалютызуюцца, а разглядаюцца як адно звяно ў ланцугу лекавых мерапрыемстваў.

Шкода знахарства і ў тым, што звяртанне да яго параджае або ўмацоўвае ў людзей рэлігійныя забабоны, а таксама наносіць матэрыяльную страту сем'ям працоўных, таму што мэта знахароў — нажыва.

Добра вывучыўшы народную медыцыну палешукоў, этнограф Л.І.Мінько піша:"Народная медыцына палешукоў мае многа пазітыўнага, рацыянальнага, толькі трэба ўмела карыстацца яе сродкамі, каб не пашкодзіць здароўю". Гэтыя і іншыя словы пацвярджаюць думку, што ўсё-такі народнае лячэнне дасягнула многага ў параўнанні з іншымі. Асабліва цікавяць нас, фалькларыстаў, тэксты замоў, як самыя, бадай, даўнія, старажытныя вусныя народна-паэтычныя творы.

* * *

Хаця замовы ў адрозненне ад іншых жанраў фальклору належаць толькі асобным прадстаўнікам народа, прайшлі вялікі працэс фалькларызацыі і можна з упэўненасцю сцвярджаць, што па сваіх мастацкіх вартасцях не ўступаюць іншым народным творам. Як і песні, яны насычаны вобразамі, маюць рыфму, як і калыханкі, яны мілагучныя і рытмізаваныя, як і казкі з добрым канцом, яны накіраваны на вялікае жаданне прынесці шчасце чалавеку, лепшую долю, пазбавіць яго цела ад "злых духаў".

Разгледзім групы шэптаў, што запісаны намі ў Лельчыцкім раёне. Першая група, што звязана з гаспадарчай дзейнасцю чалавека, не вельмі разнастайная, але даволі багатая на творы пра захаванне і хваробы свойскіх жывёл. Асаблівай пашанай і любоўю паляшук надзяляў карову, іншы раз адзіную карміліцу вялікай сям'і. Ад самага ацёлу аберагаецца яна. Часта шапталіся "ўрокі", каб не захварэла, не прапала малако. Шапталі вясною, калі ўпершыню выганялі з адрыны ў чараду.

"Добры дзень, вадзіцы-крыніцы! Мы не прыйшлі па ваду, мы прыйшлі па сваё малако. Як у крыніцах вада прыбывае мінутамі, гадзінамі, часамі, каб малако прыбывала..." Звяртаюцца да самога Бога, каб пасвіў іх жывёлу: "Ззаду падганяй, папераду прыпыняй, чараўніка, чараўніцу ў наш табун не пускай". Часта вялікую шкоду прыносілі ваўкі, таму і ад іх ёсць "Заціданне кароў ад воўка". "Цар Крутоус, царыцы Егіпта позамукала воўкам і воўчыцам губы, зубы, скіівіцы, івіцы. Назад вочы позаворочвала Корчовым і Луговым, Полевым".

Амаль ад усіх хвароб "худобы" (жывёлы) маюцца шэпты "Ад вужакі", "Ад зьвіху і ўдару", "Бельмо", "Здуцье", "Каб карова не брыкалася", "Ляк", "Оўёх", "Перэлогі", "Сухая кроў" і іншыя. Прычым шэпчуцца і тыя тэксты, што прызначаюцца для чалавечых нядужасцей. Сама хвароба бачылася нашаму продку як жывая, што можа зайсці ў цела і выйсці.

Другая група шэптаў супраць хвароб — вялікая. Іх можна падзяліць на дзве падгрупы: тэксты ад хвароб дзяцей і дарослага. Многія з іх не маюць канкрэтнага дзялення, з'яўляюцца агульнымі. Самы распаўсюджаны — "Ляк". Існуюць яго розныя варыянты і з'яўляюцца, бадай, самымі папулярнымі ў народзе. Лепшымі мы лічым тыя тэксты, што пераканаўча пры дапамозе вобразна-эмацыянальных сродкаў прымушаюць паверыць у поспех лячэння.

"У цябе, Ляча, воўча голова, а клочана борода, соломенное чэрэво, конопляные ногі. Я ту воўчу голову росчаўлю, клочану бороду розверну, соломенное чэрэво продзеру, конопляные ногі поломлю, а цябе, Лячэ-Перэлячэ, ізжэну..."

Пры дапамозе цікавых казачных эпітэтаў створаны і ўяўляўся людзям Ляк "у выглядзе нябачных, але матэрыяльных канкрэтаў, сіл, якія могуць уваходзіць у чалавечае цела і прычыняць яму пакуты" (Янкоўскі М.). Эпітэт у шэптах нясе асноўную эмацыянальную нагрузку. Часам для абмалёўкі таго ж Ляку прыводзіцца цэлы шэраг зарыфмаваных мастацкіх азначэнняў:"Ці ты дзіцячы, ці ты сабачы, ці ты коцячы, ці ты конячы, ці ты жоночы, ці ты дзевочы, ці ты чоловечы, ці ты панскі, ці ты цыганскі, ці ты паноўскі, ці ты жыдоўскі, ці ты водзяны, ці ты ходзяны, ці ты ветраны, ці ты товарачы, ці ты свойскі, ці ты поганы? Вуйдзі з твоіх карых вочэй! Вуйдзі з белых плечэй! Вуйдзі з твоіх сахарных вусоў! Вуйдзі з каменных жыботоў! Вуйдзі з твоіх погрэбашчых рук і з походзяшчых ног".

Нельга не заўважыць, што майстэрства творцы-народа выключнае. Некаторыя эпітэты зіхацяць метафарычнасцю, ствараюць запамінальны вобраз. У наступным запісаным варыянце ў такі ж шэраг трапіла нават і лексіка нашага часу: "Ці ты з воды, ці ты з еды, ці ты бацькоўскі, ці ты мацерынскі, ці сестроўскі, ці братоўскі, ці дзедоўскі, ці цеткоўскі, ці собачы, ці коцячы, ці товарачы, ці машыноўскі, ці трактароўскі, ці міліцынероўскі, ці жыдоўскі?.."

Здзіўляешся народнай мудрасці, уменню характарызаваць эпітэтамі, словатворчасці і багатаму лексічнаму запасу:"Болячухно-матухно, Болячухно-панухно, мокоўня-москоўніца, удар-ударніца, зубата, крылата, наслана, наспана, водзяна, подумана, погадана, рожуха, срэбруха, чырвонкі, медзёнкі, запазніцы, каменіцы..." Заўважаюцца як і ў прыведзеным прыкладзе незразумелыя словы, што страцілі цяпер лексічнае значэнне."Копоткі на копоткі", "мосці на мосці",— гаворыцца ў шэптах. Уводзяць сваім зместам у міфічнасць, таямнічасць і казачнасць сталыя традыцыйныя эпітэты: буйны ветры, каліновы мосточок, чысто поле, вороны конь, чырвона кроў, белое цело, румяное лічыко, сіне морэ, а таксама традыцыйныя лічэбнікі: тры сестрыцы, сорок суставоў, дванаццаць ангелоў і інш.

Шмат бытуе дзіцячых шэптаў. Гэта — "Урокі", каб не сурочылі злыя вочы,"Зноскі", каб аднагодак не апярэдзіў у развіцці, не нашкодзіў, "Начніцы", "Крыксы", каб добра спаў, "Ятры" і "Пудвей", каб не было хвароб на целе, "Ляк"...

Да другой групы адносяцца і вядомыя ў нас многім жанчынам шэпты "Ад паганых родаў і напраснай смерці". Іх шэпчуць самі парадзіхі для супакаення.

Да трэцяй групы замоў, што звязаны з сямейнымі адносінамі і прыватным бытам, можна аднесці запісаныя намі "Прысуша", "Адкрутка", "Шоб вернуўса бацько к дзіцяці" і іншыя. У апошняй — пакінутая жонка просіць у Ісуса Хрыста, каб яго 12 ангелаў "усе города обошлі, да ёго знашлі, да к дому прыгналі, да к дзіцяці спаць поклалі..." "Закруткі" прызначаны для таго, каб муж не "спаў" з жонкаю, а "Адкруткі" — наадварот. "Закрутка" лічыцца "злой" замовай. Сама назва яе гаворыць за сябе, бо скрывае сэнс "закруціць" мужчынскі палавы орган. Пабочныя магічныя дзействы, што выконваюцца ў комплексе з замаўляннем, даволі складаныя, у якіх, напрыклад, прысутнічае выкраданне ніжняга адзення таго чалавека, каму хочуць "прырабіць". "Злыя" замовы трымаюцца ў вялікай тайне і ніхто не прызнаецца, што валодае імі.

Любоўная магія бярэ карані ў далёкім мінулым. Вядомы даследчык В.Ф.Зыбкавец піша:"Найпрасцейшыя з іх склаліся ў эпоху дзікасці, а найбольш "хітрыя" створаны разбэшчанай фантазіяй варажбітак, якія спецыялізаваліся на шарлатанскіх выдумках".

Такой жа бездапаможнасцю, але яркімі мастацкімі сродкамі вызначаюцца і шэпты, звязаныя з грамадскімі адносінамі, што складаюць чацвёртую групу. Яны нешматлікія ў нас. Запісана, напрыклад, замова "Як ісці на суд".

Для раскрыцця думкі твораў працуюць розныя сродкі мастацкай мовы. Акрамя прыведзеных раней эпітэтаў, можна выдзеліць яшчэ азначэнне, якое паўтараецца:"Ішоў дзед чорнаю дарогай, чорные постолы, чорные волокі, чорныя нучы, чорныя штаны, чорная рубашка, чорная світа, чорная попруга, чорная шапка". Удалыя параўнанні ствараюць пераканаўчы мастацкі вобраз. Напрыклад, "Ек етым розкам на корэнні не буваці, лістком не махаці,росой не прыпадаці, перэд сонцэм не зьзяці, так етому Ляку не буваці", "Да глей, коровонько, ек брат сестры. Да ідзі поміж чэрэды, ек муж з жонкаю". У некаторых шэптах просьба заключана ў дасціпнай вобразнай сістэме:"А ты, Золотнічку, зоркаю ў лес каціса, мачынкаю одгородзіса, вузліком завяжыса, а лісцінкаю росцеліса". Як паэтычны жанр замова мае пэўную інтанацыйна-рытмічную сістэму. Сустракаецца рыфма ў пераважнасці дзеяслоўная. Замовы вылучаюцца сваёй кампазіцыяй. Яны з'яўляюцца адным з самых даўніх відаў народнай творчасці, багатых на вобразныя сродкі, адлюстроўваюць працоўную дзейнасць людзей, духоўны склад іх, маюць пазнавальнае значэнне.

Справядліва і пераканаўча расказвае М.В.Рабушкін у кнізе "Миф о союзе религии с медициной" пра частковую і выпадковую дапамогу і шкоду, якую прыносяць знахары людзям[1]. У прыватнасці, даецца адказ на пытанне, ці можа знахар дапамагчы хвораму. Можа калі-нікалі, але не таму, што яму дадзена "звышнатуральная сіла". Знахары ў выпадках навобмацак выкарыстоўваюць некаторыя лячэбныя сродкі, у тым ліку і народныя, якія мэтанакіравана і навукова выкарыстоўваюцца ў медыцыне. Не маючы медыцынскай адукацыі, яны толькі ў рэдкіх выпадках адгадваюць, чым хворы чалавек і далёка не заўсёды ўстанаўліваюць правільную дазіроўку лекаў. Таму і знахары могуць дапамагчы толькі ў рэдкіх выпадках.

Галоўная роля ў знахарскім "лячэнні", тлумачыць вучоны, адводзіцца замовам , малітвам, вымаўленню магічных слоў, выгнанню з хворага "нячыстай сілы". У выніку выкарыстання такіх "таямнічых сродкаў" знахарам часам удаецца супыніць зубны боль, кровацячэнне, выдаліць барадаўкі.

З падобных фактаў зусім не вынікае, што існуе звышнатуральная сіла, здольная дараваць вылечванне. Магічныя прыёмы знахараў часам выклікаюць палепшанне стану хворага таму, што яны ўздзейнічаюць на яго псіхіку шляхам такіх натуральных з'яў, як унушэнне, самаўнушэнне і гіпноз. Гэта можа ўзмацніць

---

[1] З пазіцый сённяшняга дня я даў бы іншую адзнаку гэтаму выданню.




*Меркаванні чытачоў*

*Разважанні*

# ЦІ ТАЯ «ПАГОНЯ»?

За прызнанне нацыянальнай сімволікі змагаліся яшчэ з часоў "Талакі", "Світанка", калі распачынаўся беларускі адраджэнскі рух. І таму нам, нацыянальна свядомай моладзі, неабыякава выява дзяржаўнага герба Беларусі.Мы вітаем зацвярджэнне "Пагоні". Але гэты ліст вырашылі напісаць таму, што нязгодны з прынятым эталонам. Нідзе не друкаваліся грунтоўныя гістарычныя даследаванні як наконт самой "Пагоні", так і кожнай дэталі, прысвечаныя менавіта зацвярджэнню "Пагоні" дзяржаўным гербам. Не было наладжана не тое што шырокага абмеркавання ў прэсе, але нават і сярод нацыянальна свядомых колаў грамадства. Мы абураны недэмакратычнасцю зацвярджэння "Пагоні". Лічым прыняты варыянт спрэчным з гістарычнага і эстэтычнага пунктаў гледжання. Варта ўзгадаць радкі "Пагоні" М.Багдановіча. Стане відавочна, што прапануемы эталон не адпавядае паэтычнасці верша:

"Усё лятуць і лятуць тыя коні, срэбнай збруяй далёка грымяць...".

На наш погляд, спрэчку выклікаюць таксама і выява крыжа на шчыце, і шалом вершніка. Артыкул "Калі прыскача срэбны вершнік" у газеце "ДВ", на наш погляд, не дае адказу на ўсе пытанні.

Мы прапануем неадкладна наладзіць грамадскае абмеркаванне герба ў прэсе і склікаць канферэнцыю па беларускай геральдыцы, наладзіць конкурс на лепшую выяву "Пагоні".

**Задзіночанне беларускіх студэнтаў, маладзёжная арганізацыя "Выбранецкія шыхты".**

# "АСАДЗІ КАНЯ НАЗАД!"

У апошні час у друку з'явіліся звесткі аб гербе — эталоне Беларусі, які быў ухвалены Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

Бачыў я гэты герб і хачу падзяліцца з вамі сваім расчараваннем. Яго можна назваць "Пагоняй" толькі з вялікай нацяжкай, таму што ягоны змест не адпавядае назве. Праект герба пакідае агульнае ўражанне затарможанасці, вяласці... "Пагоня" страціла свой дынамізм, не стала імклівасці, лёгкасці.

Хіба такім павінен быць наш герб? Успомнім Багдановіча: "Усё лятуць і лятуць тыя коні... Старадаўняй літоўскай "Пагоні" не разбіць, не стрымаць, не суняць..." Але, як бачыце, мастакі "Пагоню" сунялі, а Высокія Камісіі тут жа гэта ўхвалілі. Атрымалася не "Пагоня", а герб "Асадзі каня назад!"

Асноўная прычына гэтага – няўдалае графічнае вырашэнне задніх ног каня. Для таго, каб "Пагоня" апраўдвала сваю назву — была імклівай, лятучай, баявой і тым самым выражала гатоўнасць беларусаў бараніць сваю Айчыну, рыцарскі конь павінен не таптацца на месцы, а ляцець наперад. Гэта значыць, графічна заднія ногі каня павінны мець накірунак назад.

Усё адразу становіцца на сваё месца, і герб-эталон атрымлівае поўнае права называцца "Пагоняй".

Дарэчы, на канверце, у якім я пасылаю вам гэты ліст, якраз змешчана выява ўдалай, імклівай "Пагоні". Звярніце ўвагу на заднія ногі каня. Гэта сапраўды ногі рыцарскага каня! А на прапануемым гербе-эталоне, прабачце, намаляваны азадак калгаснага лашака.

Для большага дынамізму ды і дзеля большай жыццёвай праўды вершнік павінен мець хоць невялікі, але нахіл наперад. Інакш ён выглядае няўстойліва, здаецца, вось-вось зваліцца з каня...

Згодна з законамі геральдыкі, бела-чырвона-белы сцяг мае чырвоную паласу дзякуючы чырвонаму колеру шчыта: срэбны (белы) рыцар — чырвоны шчыт — белы конь. Белы—чырвоны—белы... Але на гербе-эталоне шчыт вершніка чамусьці белы, а не чырвоны. Парушаецца ж геральдычны рытм колераў, і наш сцяг ужо не адпавядае гербу!

Трэба таксама неяк мяняць канфігурацыю шасціканцовага крыжа, бо на шчыце прапануемага герба-эталона прыведзены яго славацкі варыянт. Успомнім, што латышы, каб адрозніць свой чырвона-бела-чырвоны сцяг ад аўстрыйскага, спецыяльна зрабілі белую паласу вузейшай за чырвоныя. А на беларускім гербе будзе элемент абсалютна тоесны славацкаму крыжу, і нікога гэта не хвалюе, ніхто нічога не збіраецца мяняць...

Я вельмі прашу рэдакцыю "Чырвонай змены" зрабіць захады для ўздзеяння на працэс зацвярджэння герба-эталона. Тэрмінова азнаёмце з гэтымі крытычнымі заўвагамі ўплывовых людзей, якія, магчыма, пагодзяцца з імі і пастараюцца нешта зрабіць... Добра, калі падключацца патрыятычныя маладзёжныя суполкі. Бо вельмі не хочацца, каб Беларусь займела ў якасці афіцыйнага герба няўдалы варыянт "Пагоні". Трэба давесці да ладу яго праект. Інакш з нас пасмяюцца і славакі, і літоўцы, маўляў, гэтыя нехлямяжыя беларусы пасадзілі рыцара на калгаснага лашака і кажуць, што гэта наш герб...

Яшчэ не позна! І няхай вас не бянтэжаць "ухвалы" Высокіх Камісій. Герб-эталон трэба дапрацаваць!

**Занежанкоў В.А.**
**г.Мінск.**

абарончы патэнцыял арганізма, арганізаваць дзейнасць нервовай сістэмы.

Таксама даецца адказ на пытанне, калі знахарства часам дае палягчэнне хвораму, то чаму мы яго асуджаем? Перш за ўсё самазваныя лекары часта наносяць шкоду здароўю легкаверным людзям, выдаючы ім у якасці лекаў курыны памёт, сабачы кал, гарэлку, ртуць, бітае шкло або рэкамендуюць класці на галаву хворага манную кашу, яечню, пускаць у рот жабу і г.д. Прымяненне шкодных і марных працэдур і "лекаў" вядзе да таго, што хвароба ўзмацняецца і затым часам не паддаецца лячэнню нават сучаснымі медыцынскімі сродкамі...

Палессе... Край спрадвечных балот і непраходных лясоў, паміж якіх ёсць таямнічыя паляны з чорнымі і сляпымі хаткамі. Там жывуць прывабныя паляшучкі Алесі, што зачароўваюць усіх сваёй прыгажосцю ці нейкімі іншымі невядомымі чарамі, што перадаюцца па праву спадчыны ад вядзьмарак-бабуль. Там здаўна жывуць "людзі на балоце", сярод якіх няцяжка адшукаць адзінокую бабку Захарыху, якая гатова за любы кошт дапамагчы ў вашых справах. Жывуць яны ўсюды,у вобразе школьнай вартаўніцы, якая і без платы прыварожыць вам "найпрыгажэйшую кветку Палесся". Напэўна, такім паўстае для вас наш лясны і таямнічы край.

Чараўніцы і цяпер жывуць на Палессі. Яны здзяйсняюць вялікія цуды: з былых непраходных балот збіраюць небывалыя ўраджаі, дастаюць з-пад зямлі чорнае золата і незямнымі чарамі растапляюць лёд душэўны.

Чараўніцы жывуць на Палессі.



Герб-эталон



«Пагоня» з канверта.



А вось сапраўдная «Пагоня».

*Мова зямлі*

# РЫЦАРСКАЯ ПАЛЬЧАТКА

## ЛЕГЕНДА

Апошняе "амэн" адгучала над целам шведскага генерала Ленарда Вэнстрома. Сухенькі пастар адышоў убок, каб даць магчымасць салдатам развітацца са сваім камандзірам. Тады да яго з нямым пытаннем наблізіўся малады капітан Кнуд Ерансон. Быццам адказваючы на гэта пытанне, стары святар прамовіў:

– Ён пажадаў быць пахаваным у адной пальчатцы. Здаецца, гэта нейкі старадаўні рыцарскі звычай?

– Так,– адказаў капітан.– Далёкія продкі графа Вэнстрома хадзілі ў крыжовы паход да труны Гасподняй. Пэўна, адтуль яны і прывезлі такі звычай. Рыцара хаваюць у адной пальчатцы, лічачы, што другую ён кінуў у твар смерці, выклікаўшы яе на двубой. Калі рыцар у жыцці вёў сябе з годнасцю і ні ў чым не парушаў рыцарскага кодэкса, смерць возьме яго за правую руку, апранутую ў пальчатку, каб з гонарам давесці да брамы раю. Калі ж рыцар аказаўся нявартым, яна схопіць яго сваімі халоднымі кашчавымі пальцамі за левую руку, на якой няма пальчаткі. І нясцерпны магільны холад праніжа ўсё цела такога рыцара. І ён будзе вымушаны цярпець холад гэты, курчачыся ў пакутах, да тых часін, пакуль не прыйдзе дзень Страшнага Суда. У адной пальчатцы паплечнікі хавалі свайго загінуўшага сябра толькі тады, калі былі ўпэўнены ў яго годнасці.

– Што ж,– сумна прамовіў пастар,– будзем маліць Госпада, каб дараваў самаўпэненасць і гордасць нябожчыку.

– А хіба вы, святы ойча, не адпусцілі грахі Ленарду Вэнстрому?– здзівіўся капітан.

– Ён не прызнаў за сабою ніякіх грахоў, хаця я шчыра спрабаваў накіраваць яго споведзь па патрэбнаму шляху. Генерал так і не зразумеў, што забойствы, якія чыніў ён на гэтай зямлі,– цяжкі грэх.

– Мы ўсе толькі салдаты караля,– паціснуў плячыма капітан Ерансон.– Мы павінны выконваць загад нашага манарха.

– Вы хочаце сказаць, што кароль пасылае свае войскі ваяваць з жанчынамі і старымі?– узняў на свайго субяседніка суровы погляд святар.– Сын мой, няўжо сэрца ваша не заходзілася ад жалю і непаразумення, калі бачылі вы павольна паміраючых у пакутах тутэйшых сялян, якім нашы салдаты распаролі жываты, мёртвых немаўлят, прыціснутых да сцяны цяжкай лавай, жанчын з прабітымі пікай грудзямі? Гэта было зроблена не па загаду караля, але па волі Ленарда Вэнстрома. Колькі сёлаў з мірнымі жыхарамі было абрабавана і спалена намі на гэтай квітнеючай зямлі? У тых мясцінах, дзе прайшоў наш атрад,– толькі попел і смерць. І я пытаюся: дзеля чаго?

Малады капітан моўчкі схіліў галаву, і пастар прагаварыў ужо амаль спакойна:

– Мы пахаваем Ленарда Вэнстрома так, як ён пажадаў. Няхай суддзёй будзе яму Гасподзь, а не мы, смяротныя. Я буду шчыра маліцца за яго душу і за вашы таксама.

У вялікім маўчанні цела шведскага генерала аддалі зямлі. Над магілай яго быў насыпаны курган, і атрад пакінуў гэтыя мясціны.

Пранеслася і пайшла ў нябыт шведская навала. Людзі пачалі забывацца на страшныя падзеі, звязаныя з ёй. Зарос густой травою курган. Але не знайшоў спакою ў чужой зямлі крывавы генерал Вэнстром. Пачала з'яўляцца страшэнная здань непадалёк ад таго месца, дзе быў ён пахаваны. Цёмнымі начамі ўставала яна на шляху прахожых і прасіла аб нечым са слязамі ў голасе.

Набожныя сяляне з бліжэйшага сяла Скварцы пры сустрэчы з ёй хрысціліся і гаварылі:

– Знікні, д'ябальскае насланнё! Мы не разумеем тваёй мовы.

Аднойчы, кажуць, гасцяваў у тых мясцінах нейкі студэнт з Віленскага універсітэта. Ён пачуў словы здані і пераклаў іх на родную беларускую мову. Аказалася, што здань па-шведску просіць падараваць ёй пальчатку для левай рукі, называе сябе генералам, хваліцца сваімі жахлівымі подзвігамі.

Удумліва слухалі людзі і нават у разуменні ківалі галовамі. Толькі паехаў прэч студэнт, а нічога не змянілася. Колькі ні сустракалі здань мясцовыя жыхары, усе адштурхоўвалі яе словамі: "Не разумеем цябе".

Падаць жа пальчатку, значыць, дазволіць генералу спакойна заснуць у зямлі, якую заліў ён пры жыцці крывёю нявінных ахвяр. Падаць пальчатку – значыць, усё дараваць. А гэта хіба можна?

Пэўна, і вам калі-небудзь давядзецца праязджаць праз вёску Скварцы, што на Дзяржыншчыне. І ўбачыце вы зарослы высокай травой курган, і ўстане вам на шляху здань са сваёй просьбай. Усё будзе залежаць толькі ад вас. Дык паспрабуйце ж не памыліцца, робячы выбар.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.**



Старонку падрыхтаваў Алесь Лозка.
Малюнкі Алены Шлегель-Лавецкай.

*Востраў надзеі*





# Падарункі ад Санта-Клаўса

Два месяцы таму прадстаўнікі амерыканскай дабрачыннай арганізацыі "City Soup" (Горад Надзея) на чале са святаром з Сан-Францыска Майклам Крыстэнсенам наведалі штаб-кватэру Беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" і паведамілі, што ў іх з сабою грузу на 4 мільёны долараў, які б яны хацелі размеркаваць сярод жыхароў забруджаных раёнаў Беларусі і раздаць сем'ям, дзе ёсць дзеці, хворыя на анкалагічныя захворванні (у першую чаргу гэта — рак "шчытавідкі", выкліканы радыяцыяй). Амерыканцаў павазілі па Беларусі, каб яны на ўласныя вочы пабачылі тых людзей, якім прызначаліся падарункі. І, відаць, такая тактыка была правільнай. Таму, што не прайшло і паўтара месяца з той першай вандроўкі, як амерыканцы зноў з'явіліся ў Мінску з грузам падарункаў. Цяпер групай кіраваў старшыня Нью-Йоркскага аддзялення "City Soup", добры сябра Майкла Крыстэнсена святар Поль Муур. І прыехалі амерыканцы не адны.

Разам з імі былі прадстаўнікі арганізацыі "Family to family". Нягледзячы на тое, што Рычард Ролінгтон арганізаваў гэтую арганізацыю толькі ў верасні 1991 года, ужо 31 снежня разам з "City Soup" яны прывезлі свой дабрачынны груз: падарункі амерыканскіх сямей — беларускім: усяго 550 пасылак. У кожнай пасылцы сярод неабходных рэчаў, лекаў, прадуктаў быў канверт з лістом і фотаздымкам той амерыканскай сям'і, што даслала гэты падарунак.

Фонд "Дзецям Чарнобыля" арганізаваў паездкі амерыканцаў у Нароўлю і Гомель, місіянераў правялі па клініках, дзе ляжаць хворыя дзеці, яны абышлі ўсе 600(!) кватэр пярэбарцаў з забруджаных раёнаў Беларусі, што жывуць цяпер у Мінску. І паўсюль госці з Амерыкі раздавалі людзям падарункі на Раство Христова. Бачылі б вы радасць ад нечаканых падарункаў стомленых жыццёвымі неўладкаванасцямі людзей. Ды й дзіва: амерыканцы ў вашай кватэры!

Не меншы уплыў такія сустрэчы аказалі і на саміх амерыканцаў. Яны на ўласныя вочы ўпэўніліся: іх праца, іх дапамога патрэбны тут, іх чакаюць.

8 студзеня ўсе 19 чалавек ад абедзвюх арганізацый наведалі дзіцячы дом па адрасу: Каліноўскага, 65, дзе пасля перадачы падарункаў дзецям і правялі прэс-канферэнцыю.

У складзе дэлегацыі былі два спецыялісты-псіхолагі, якія прыехалі з мэтай распачаць дзейнасць па навучанню беларускіх лекараў, медсясцёр знімаць стрэсы.

Іх работа яшчэ толькі пачалася. Як і супрацоўніцтва з фондам "Дзецям Чарнобыля" арганізацыі "Family to family", якая мяркуе да бліжэйшых свят прывезці ўжо 1000 пасылак ад амерыканскіх сем'яў беларускім. А "City Soup" плануе адкамандзіраваць на Беларусь групу амерыканскіх медыкаў для таго, каб яны разам з беларускімі змагаліся за здароўе беларускай нацыі.

Такія сустрэчы патрэбны беларусам. Яны запэўніваюць: мы не адны са сваёю бядой. Амерыканцы бачаць: іх праца, іх грошы не растрачваюцца дарэмна. А значыць, сябраваць будзем. І дзякуй Богу!

**Зміцер Лукашук.**
**Фота Я.Коктыша.**





- **У Мінскім доме дзіцяці.**
- **Дзякуй амерыканскім Санта-Клаўсам за падарунак.**
- **"А вось гэта табе!"**
- **Старыя і малыя — што тыя дзеці.**




Музычны выпауск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№ 3 (193)

*Зоркі на небасхіле*

# Ці вернецца «Лэд Зэпелін»?

Цяжка сказаць, па якой прычыне — з-за любві да музыкі, а можа — настальгіі па былой славе ці дзеля карысці, але ў апошні час усё больш рок-ветэранаў зноў збіраюцца разам, каб запісвацца ў студыях і выступаць на канцэртах. "Ролінг стоўнз", "Джэферсан эйрплэйн", "Біч Бойз"... І толькі адзін калектыў, з'яўленне якога рок-фаны, верагодна, чакаюць больш за ўсё, не спяшаецца з такім рашэннем. Гэты гурт — "Лэд Зэпелін", які са стратай аднаго музыкі спыніў сваё існаванне дзесяць гадоў таму.

У сярэдзіне 60-х гадоў, калі свет вар'яцеў ад Элвіса Прэслі, "Бітлз" і "Ролінг Стоўнз", гітарысту Джымі Пейджу толькі пераваліла за дваццаць. З-за слабага здароўя (як яму тады здавалася), Джымі не мог выступаць на канцэртах і таму падпрацоўваў "музыкантам па запрашэнні", выконваючы гітарныя партыі на кружэлках "Ролінг Стоўнз"", "Кінкс" і іншых выканаўцаў. Зміры́ўшыся з тым, што яму ніколі не давядзецца мець уласную групу, Пейдж так і працягваў працаваць аранжыроўшчыкам і студыйным музыкантам, што давала яму, аднак, нядрэнныя грошы.

Праз некаторы час яго запрасілі ў вядомы гурт "Ярд-бёрдз", які знаходзіўся на мяжы развалу, дзе ён выступаў другім гітарыстам. Менавіта там ён пазнаёміўся з басістам Джонам Полам Джонсам, працаваўшым, як і сам Пейдж, "на падхваце". Пасля распаду гурта ў 1968 годзе мэнэджэр Пітэр Грант прапанаваў сфарміраваць новы калектыў, названы "Нью Ярдбёрдз". Тыя згадзіліся, але трэба было знайсці астатніх удзельнікаў новага праекта і ў першую чаргу спевака.

Было праслухана некалькі кандыдатаў, пакуль да музыкантаў не дайшоў слых пра якогасьці вакаліста з Бірмінгема, валодаўшага незвычайным голасам. Ім аказаўся Робэрт Плант, які адразу ўвайшоў у склад калектыву. Ён, у сваю чаргу, парэкамендаваў барабаншчыка — Джона Бонэма, з якім выступаў яшчэ ў школе.

Першы крок маладых музыкантаў быў надта ўжо асцярожны — яны акампаніравалі малавядомаму амерыканскаму спеваку Ры Джы. Але Пітэр Грант, адчуўшы іхнія патэнцыяльныя магчымасці, хутка заключыў кантракт з "Атлантык рэкордз". Паверылі ў свае сілы і самі музыканты: перш за ўсё яны вырашылі пазбавіцца ад надакучыўшай і невыразнай назвы.

Гурт стаў называцца "Лэд Зэпелін" ("Свінцовы Цэпелін") — так жартоўна назвалі іхні праект сябры з гурта "Ху" Кэйт Мун і Джон Энтвістл, намякаючы, што гэтая задумка "пойдзе на дно". Акрэсліліся яны і са стылем — пасля доўгіх пярэчанняў Роберта Планта была выбрана музыкальная канцэпцыя Пэйджа, якая прадстаўляла сабой сумесь гард-рока і белага блюза.

Пасля некалькіх няўдалых выступленняў на радзіме музыканты вырашылі нанесці галоўны камерцыйны ўдар у ЗША. Справа ў тым, што незадоўга да гэтага там з вялікім поспехам прайшлі гастролі гурта "Крым" ("Смятанка"), на якую яны былі падобныя. Перад прыездам "Лэд Зэпелін" "Атлантык Рэкордз" правяла моцную рэкламную кампанію, і захапіць сэрцы амерыканскіх тынэйджэраў аказалася справай нескладанай.

Поспех маладога гурта быў ашаламляльны — такога моцнага націску рокавых эфектаў амерыканцам даўно не даводзілася слухаць. Вытанчаная выканаўчая тэхніка гульні на гітары Пэйджа, ягоны кампазітарскі талент, захапляючы сваёй сілай выразны вакал Планта, супервалоданне бас-гітарай і фартэпіяна Джонса і шалёныя ўдарныя Бонэма — усё гэта разам дало жыццё новаму музычнаму накірунку, які пазней крытыкі назавуць "гэві метал рок".

У 1968 годзе на паліцах крам з'явілася першая кружэлка гурта, якая мела назву "Лэд Зэпелін", праз год выйшла другая — "Лэд Зэпелін-2" з гітам "Шмат-шмат кахання". Поспех гэтай кампазіцыі быў настолькі грандыёзны, што асноўная тэма песні на працягу сямі гадоў была выкарыстана ў якасці пазыўных тэлевізійнай перадачы "Топс оф зэ нойс".

Тым часам у самой Англіі гурт па-ранейшаму не карыстаўся асабліва шырокай папулярнасцю. Грант бачыў прычыну ў тым, што музыкантаў не вельмі мілавала прэса, і таму зноў вырашыў "ударыць" па Амерыцы, выступіўшы там з вялікімі гастролямі.

У 1970 годзе выйшаў дыск "Лэд Зэпелін-3", змяшчаючы акрамя ўсяго іншага некалькі акустычных кампазіцый, апрацоўку народнай англійскай песні, незвычайны блюз "З тых часоў як я кахаю цябе" і гіт "Імігранцкая песня". Праз год музыканты парадавалі прыхільнікаў кружэлкай "Лэд Зэпелін-4", кампазіцыя з якой "Чорны сабака", а яшчэ ў большай ступені "Лесвіца ў неба" стала візітнай карткай калектыву і ўвайшла ў гісторыю рок-н-рола як класіка.

Пачынаючы з сакавіка 1971 года, гурт гастраляваў па ЗША не менш 5 разоў у год, што забяспечвала яму вялікі камерцыйны поспех. Зрабіўшыся мільянерамі і час ад часу наязджаючы на радзіму, удзельнікі "Лэд Зэпелін" набывалі розныя каштоўныя рэчы, аўтамабілі і маёнткі. Пасяліўшыся ў адным сярэдневяковым замку, Пэйдж захапіўся акультнымі навукамі (менавіта вынікам гэтага захаплення і стала песня "Лесвіца ў неба", як і шмат іншых, напісаных ім).

"Дамы святых" — так называлася кружэлка, якую выпусціў "Лэд Зэпелін" у 1973 годзе.

І зноў гастролі — па Вялікабрытаніі, Еўропе, Амерыцы. На прыбытак ад амерыканскага турнэ быў набыты велічэзны "Боінг-720" для дастаўкі апаратуры, музыкантаў і тэхнічнага персаналу ў любую кропку зямнога шара.

У гэтым жа годзе ў "Лэд Зэпелін" скончыўся тэрмін кантракта з "Атлантык Рэкордз" і яны заснавалі ўласную фірму — "Свон сонг" ("Лебядзіная песня"), дзе, акрамя іх, меркавалася запісваць і іншых музыкантаў.

У канцы 1973 года пачаўся запіс двайнога альбома "Фізічныя надпісы на сценах", але з-за хваробы Джонса гэтую работу прыйшлося адкласці. Яна была закончана толькі ў 1975 годзе.

Нягледзячы на тое, што гэты перыяд быў часам росквіту выканаўчых і кампазітарскіх талентаў музыкантаў, 1975 год — гэта пачатак канца. Кіруючая тады лейбарысцкая партыя ўвяла высокі (да 90 працэнтаў) падатак на прыбыткі славутасцей. Гэта вымусіла многіх з іх пакінуць краіну. Не пазбег гэтага і "Лэд Зэпелін". Доўгае вымушанае знаходжанне далёка ад дому і родных сказвалася на музыкантах — Пэйдж перыядычна ўпадаў у дэпрэсіўны стан, Бонэм пачаў піць.

У жніўні здарылася першае няшчасце — машына, у якой знаходзіліся жонкі Пэйджа і Планта, сам Роберт і трое дзяцей, трапіла ў аварыю. Морын, жонка Пэйджа, ледзь не загінула, а Плант зламаў нагу і пашкодзіў локаць.

У 1976 годзе ён, яшчэ знаходзячыся ў гіпсе, запісаў з сябрамі дыск "Прысутнасць". У красавіку наступнага года ўсё было гатова да пачатку звычайнага для гурта вялікага турнэ. Было сыграна ўсяго дзесяць канцэртаў, калі Плант атрымаў звестку, што ягоны сын памёр ад віруснай інфекцыі. Ён тэрмінова вылецеў дадому. Гастролі перарваліся, што нарадзіла чуткі аб магчымым распадзе гурта. Пэйдж у шматлікіх інтэрв'ю адвяргаў гэтыя домыслы, і выпуск у 1979 годзе кружэлкі "Уваход праз выхад" павінен быў стаць пацвярджэннем ягоных слоў. Уласна кажучы, так яно і было, паколькі ў гэтым жа годзе "Лэд Зэпелін" зноў быў гатовы да канцэртаў, але ў жніўні 1980 года пасля начной п'янкі ў доме Пэйджа памёр барабаншчык Джон Бонэм. Ён захлынуўся ўласнай ірвотай.

Яшчэ пяць гадоў таму Пэйдж сказаў: "Мы будзем разам, пакуль адзін з нас не працягне ногі", і цяпер, пасля смерці Бонэма, астатнія ўдзельнікі вырашылі, што гурт павінен скончыць сваё існаванне. Так яны і зрабілі, абвясціўшы ў снежні таго ж года афіцыйную заяву. Апошняй кружэлкай гурта стала "Кома", якая з'явілася ў продажы ў 1982 годзе.

Пасля распаду музыканты працягваюць працаваць з іншымі выканаўцамі, таксама выдаючы свае сольныя альбомы. Найвялікшую цікавасць уяўляюць сабой работы Планта, крыху слабейшыя — кружэлкі Пэйджа. У 1988 годзе музыканты сыгралі свае старыя рэчы ў нью-йоркскай "Зале рок-н-рольнай славы", за барабанамі сядзеў сын Бонэма — Джэсам. Гэта нарадзіла чуткі пра адраджэнне калектыву, на што "лэдзэпелінаўцы", на вялікі жаль паклоннікаў, пакуль што даюць адмоўны адказ.

**Н.Салдаценкаў.**

*Па старонках газет*

## БОЛЬШ НЕ ПРЫЕДУЦЬ

Непрыемны сюрпрыз чакаў ансамбль "Ласкавы май" пад час апошніх гастроляў у Мінску, якія праходзілі ў Палацы культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода.

Білеты на гэтую калісьці папулярную ў вузкіх колах мясцовай моладзі каманду не былі прададзены, хоць па цяперашніх часінах каштавалі не надта дорага – усяго 8 рублёў. Запланаваныя два канцэрты з-за адсутнасці слухачоў давялося з'яднаць у адзін, дый на ім паўзалы пуставала. У сувязі з гэтым хацелася б даведацца, што гэта: "Ласкавы май" аджыў сваё ці юныя меламаны нечакана набылі высокамастацкі густ? А хутчэй – беларускае адраджэнне набірае тэмпы, што і прыводзіць да змены густаў.

**"Аўтазаводзец", № 7, 16.1.1992.**

## НОВЫ АЛЬБОМ "Мроі"

Рок-гурт "Мроя" падрыхтаваў да запісу сваю новую праграму. З гэтай нагоды Лявон Вольскі, лідэр-вакаліст, распавядае:

– Спадзяёмся зрабіць гэты альбом больш прафесійна, чым папярэднія. Стылістычна гэта будзе паяднанне рок-н-рола з нюансамі панк-рока... Зараз справа за студыяй і грашыма на запіс.

У альбом будзе ўключана 8-9 кампазіцый, не аб'яднаных нейкай агульнай тэмай. Сярод рабочых варыянтаў ягонай назвы – "Шлях да сябе", "Вандроўная песня", "Так і трэба". Нагадаем, што апошняя назва вядомая ўжо шырокай публіцы паводле аднайменнага "мроеўскага" супергіту, з якім калектыў выступіў у гіт-парадзе тэлепраграмы "Крок" і радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная".

**"Добры вечар", № 7, 14.1.1992.**

## РОК СУПРАЦЬ П'ЯНКІ

Цалкам адмовіўся ад ужывання алкаголю прэзідэнт наваполацкага рок-клуба, ён жа вакаліст гурта "Грунвальд" Сяржук Анішчанка (Аніса), які прайшоў кадаванне ў гіпнолага акурат напярэдадні свайго 30-годдзя. Строгі дослед, праведзены пры ўдзеле пазаштатных карэспандэнтаў часопіса "401", пацвердзіў: не п'е. Што ж, ад шчырага сэрца віншуем музыку з юбілеем (і нараджэннем дачкі) ды выказваем надзею, што праяўленая цвёрдасць дапаможа яму ў добрым здароўі сустрэць яшчэ не адну круглую дату. Дарэчы, з 1992 года рэдакцыя "401" засноўвае спецыяльны прыз, які будзе ўручацца музыкам, што зрабілі найбольшы ўклад у прапаганду цвярозага ладу жыцця. Спрабуйце!

**"СаРОКа", № 3, 12.1991.**

*Спяваем па-беларуску*

Гэтую песню напісалі беларускі кампазітар і беларускі паэт. Але з таго часу, як яе заспяваў амерыканскі беларус Данчык, пачала песня гуляць па свеце. Для англамоўных выканаўцаў тэкст пераклаў канадскі паэт Джэймс Бэл. Мы ж, перадрукоўваючы ноты з англійскага выдання, падаём тэкст на мове арыгінала, які быў змешчаны ў сакавіку 1990 г. у беластоцкім штотыднёвіку "Ніва".

## КАЛЫХАНКА

**Словы Лявона Пранчака** | **Музыка Зміцера Яўтуховіча**

*"Баю-баю, люлі-люлі..." —*
*Гэта песенька матулі.*
*Закрывайце, дзеткі, вочы,*
*Добрай ночы, добрай ночы!*

Прыпеў:
*Спіць над лесам аблачынка,*
*Засынай, мая дзяўчынка.*

*Добрай ночы, добрай ночы,*
*Засынай, мой любы хлопчык.*

*Дзед Баюн не спачывае,*
*калыханку дзецям бае.*
*Засынайце, калі ласка,*
*Вам прысніцца ўночы казка.*

Прыпеў.



*Гіт-парад*

# «Рокіс» зноў у лідэрах



Дзесьці каля года таму, калі мы ўпершыню знаёмілі чытачоў з маладым менскім калектывам, артыкул Зміцера Маленькага так і называўся тады – "Рокіс" імкнецца ў лідэры". Словы аказаліся прарочымі, бо неўзабаве "рокісаўская" кампазіцыя "Спадыня ноч" апынулася ў лідэрах гіт-парада радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная", а сёння іншы твор гурта ("Аксамітная вада") узначальвае спіс беларускага гіт-парада радыё "Свабода". Паўгадзінны гукавы варыянт таго спісу выйшаў у эфір на кароткіх хвалях 26 студзеня гэтага года.

●

Улічваючы, што "Аксамітную ваду" гурт запісаў ранейшым складам, мы і падаём тут ягоны фотаздымак (без вакаліста Ігара Варашкевіча). Вось што напісаў пра гэта ў гіт-парад Лявон тутэйшы з Маладэчна: "Дзякую за ўвагу да маіх ранейшых лістоў. Рады, што малады гурт "Рокіс" штурмуе новыя вяршыні. Шкада, што да многіх слухачоў яшчэ не дайшлі новыя запісы "Рокіса" з былым "бондаўскім" вакалістам Ігарам Варашкевічам, паводле якіх ужо знята ажно два відэакліпы. Але я баюся страціць шанц для любімага калектыву і таксама галасую за раней запісаны твор".

Што ж, цяжка папракнуць фана-стратэга ў залішняй рахавасці, тым больш, што ў наяўнасці рэальныя вынікі. А то ж, сапраўды, хоць у "Мроі", напрыклад, не менш фанаў, але ледзь не кожны называе сваю песню, і ў выніку многія з іх не набіраюць балаў хоць бы на 15 месца.

У "свабодаўскага" гіт-парада ўжо вызначыліся свае актывісты: штомесячна дасылаюць у яго лісты (пераважна на адрас "Чырвонай змены"; відаць, таму, што гэта бліжэй і — што істотна з-за пяцікратнага скачка паштовых тарыфаў — танней) Кастусь Карповіч з Баранавічаў, Святлана Канапчук з Наваполацка, К.Антаненка з Гомеля і многія іншыя. Так трымаць, сябры! Вашыя думкі, якія вы не прамаўчалі, а выказалі праз радыёэфір, даходзяць да шырокай публікі і дапамагаюць станаўленню нацыянальнага рок-асяроддзя.

Ніжэй мы змяшчаем поўны варыянт табліцы № 4 гіт-парада радыё "Свабода":

1. "АКСАМІТНАЯ ВАДА" (І. Вайцяхоўскі — З. Лукашук), "РОКІС".
2. "ЛЯЗО" (В.Корань — Ф. Аксёнцаў). "УЛІС".
3. "ЛІХАДЗЕЯМ НА ЗЛО" ("Грунвальд" — А. Дэбіш). "ГРУНВАЛЬД".
4. "На станцыі Койданава" (І. Варашкевіч — А. Глобус). "Бонда".
5. "Бяжы" (муз. і сл. С. Хамякова). "Ален".
6. "У чарзе па хлеб" (К. Камоцкая — А. Глобус). "Новае неба".
7. "Гаспадыня ранішняй зоркі" (муз. і сл. А. Камоцкага). Алесь Камоцкі.
8. "Гайнаўскі раманс" (муз. і сл. В. Шалкевіча). Віктар Шалкевіч.
9. "Маё біяполе" (муз. і сл. калектыву). "Мроя".
10. "Бюракрату з Дома ўраду" (муз. і сл. В. Цярэшчанка). Вальжына Цярэшчанка.

Дарэчы, некаторыя ўдзельнікі гэтага апытання прызнаюцца, што знаёмыя з ім толькі праз "Чырвоную змену", а песні (дый тое не ўсе) чулі зрэдку на грамафонных кружэлках, а часцей — на бытавых магнітафонах. Яны просяць падаваць час і хвалі, на якіх выходзіць гіт-парад, бо рабіць наступныя прапановы лягчэй, ацаніўшы ўсю панараму гіт-дзесяткі.

Лагічна. Што ж, запамінайце: гіт-парад радыё "Свабода" выходзіць у эфір кожную апошнюю нядзелю месяца (наступны будзе 23 лютага) на кароткіх хвалях 25, 31, 41 і 49 м. Яму адводзіцца другая палова гадзіннай перадачы, якая трансліруецца з 17 да 18 гадзін увечары і з 20 да 21. Калі ж вы больш вольныя ранкам, дык паўтор можаце пачуць у наступны ж панядзелак з 6-й да 7-й гадзіны або з 7-й да 8-й.

Нагадваем яшчэ раз умовы гіт-парада. Трэба назваць тры свае любімыя беларускія творы ў жанрах эстрады, фальклору, рок-музыкі, абгрунтаваць сваю пазіцыю (у некалькіх словах) і адаслаць лістом ці паштоўкай на адрас беларускай рэдакцыі радыё "Свабода" (Radio "Liberty", postfach 221425, D-8000, Munchen, Germany) або адразу на адрас нашага "Нотнага аркуша" (220041, Менск, праспект Францішка Скарыны, 77, штотыднёвік "Чырвоная змена").

Цікавыя думкі і прапановы, змешчаныя ў вашых допісах, натуральна, знойдуць адлюстраванне і ў гіт-аглядах "Чырвонкі", і ў гукавых выпусках гіт-парада "Свабоды".

**Вінцук Гуненка.**
**Фота С.Брушко.**



## *Нататнік*

У траўні магілёўская культурна-асветная суполка "Машэка" мяркуе правесці Сусветны фестываль беларускай песні, куды плануецца запрасіць усіх беларускіх зорак (салісты і гурты) як з нашай рэспублікі, так і з іншых краін: Данчыка з Нью-Йорка, ансамблі "Дубіны" і "Альбаросіка" з Беластока ды г.д. Удакладненні можна атрымаць па тэлефоне ў Магілёве 22-54-19 або звяртацца па часовым адрасе аргкамітэта фестывалю: 212000, Беларусь, Магілёў, Дом Саветаў, пакой 650, суполка "Машэка".

* * *

Тэлевізійная штомесячная праграма "Роднае слова" зноў стала адным з нямногіх месцаў рэпрэзентацыі беларускіх выканаўцаў. Апошнім часам там выступілі вядомы бард Ігар Добры і малады паэт з гітарай Валяр'ян Пазнякевіч. Чакаем новых белмузсустрэч, "Роднае слова".

* * *

Полацкі трэш-металёвы гурт "Дзіда" запісаў новы альбом пад назваю "Поскудзь". У праграму ўвайшлі пяць кампазіцый: "Ты душу прадаў сатане", "Поскудзь", "Цыяністы калі", "Адразу" і новая версія "Стрэса-тэрапіі". Тэлевізійная прэм'ера першай з названых кампазіцый адбылася летась у кастрычніку ў перадачы "Беларускі рок вітае незалежнасць", якая паўтаралася сёлета 26 студзеня.

* * *

Заходненямецкі гурт электроннага рока "Тэнджэрын дрым" зусім не знік з музычных далягляда, як лічылі ўжо многія былыя фаны. Цяпер калектыў працуе над фільмовай музыкай і рыхтуе sound-tracks да кінастужак надта разнастайных: ад крымінальных серыялаў да дзіцячых казак. "Тэнджэрын дрым" цяпер складаецца з Эдгара і Джэрома Фрозэ – бацькі, сына і святога духа, саксафаніста Лінда Спа.

* * *

Вымушаны засмуціць шматлікіх прыхільнікаў польскага рока. Пад фінал мінулага года спыніла сваё існаванне зорка сусветнага маштабу пазнанская група "Лёмбард", даўшы развітальны канцэрт з нагоды... свайго дзесяцігоддзя. Што ж, у фанаў засталіся толькі відэакліпы і кружэлкі, як этапы вялікага шляху: "Смерць дыскатэцы" (1981), "Lombard-Live" (1982), "Вольны ад падаткаў" (1983), "Шэрая масць" (1984), "Надзея і пеніцылін" (1985), "Анатомія" (1986), "Крылы галубкі" (1987), "Увасабленні" (1987) і г.д.

* * *

Увага, аматары беларускай песні! Хочаце пачуць, як спявае наш літаратурны бацька Уладзімір Караткевіч, глядзіце праз тыдзень (упершыню на тэлевізійным экране) мастацкі фільм "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Гэта – супер-гіт.



## *Фанатэка*



**"ТСА"**
**Польтон, 1982**

Дыскаграфію польскага гэві-металёвага гурта "ТСА" нашыя чытачы добра ведаюць яшчэ з 1985 года, калі мы пачалі знаёмства з ёй ад канцэртнага лонгплэя, што выйшаў на фірме "Тонпрэс" у 1982 годзе. Альбом, які мы абралі сваёй увагай сёння, выйшаў амаль аднáчасова з тым "канцэртнікам", але ўжо на прыватнай фірме "Польтон", якая толькі пачынала сваю дзейнасць. Анатуемы альбом быў другім ейным выданнем.

Хоць дзве кружэлкі выйшлі ў адзін час, хоць адна з іх з'яўляецца канцэртнай, а другая – студыйнай, праграмы абедзвюх ні ў чым не паўтараюцца, і таму кожная з іх мае асобную самакаштоўнасць у дыскаграфіі калектыву.

Гурт працаваў над ім у наступным складзе: вакаліст Марэк Пякарчык, сола-гітарысты Стэфан Махель і Анджэй Новак, бубнач Марэк Каплан і бас-гітарыст Януш Некраш. За якасць гуказапісу слухачы і сама маладая тады фірма павінны дзякаваць прызнаным мэтрам сваёй справы Войцэху Пшыбыльскаму і Яраславу Рэгульскаму.

Музыку і тэксты ўсіх кампазіцый у рэпертуары "ТСА" пішуць самі ўдзельнікі гурта. Прычым кожнаму даводзіцца праявіць сябе ў даволі шырокім спектры. Варта тут толькі заўважыць, што гэта не азначае непрыняцця музыкамі ўмяшання прафесіяналаў. Напрыклад, шэраг тэкстаў быў напісаны не без удзелу напаўштатнага паэта гурта Ё.Жэгака ("Высокія сферы", "Адзін крок", "Тваё сумненне", "Без падтэкстаў"), а "Начны шабас" і "На што здольны?" ён увогуле напісаў сам.

У кампазіцыі "Людзі, як кавуны" выкарыстаны верш А.Якубовіча, а для "Трох запалак" – пераклад К.Гальчыньскім верша Дж.Прэверта.

Варта адзначыць добрае паліграфічнае ўвасабленне і мастацкую аздобу выдання. Тытульны і тыльны бакі ўпрыгожваюць чорна-белыя здымкі Марэка Стэнпняка, а на развароце змешчаны каляровы фотаплакат А.Карчэўскага.



**"Скорпіёнс"**
**"Лепшае. Частка II"**
**Ар Сі Эй, 1978**

Адзін са зборных альбомаў ранніх твораў заходненямецкага англамоўнага гурта "Скорпіёнс", што паступілі ў айчынную гандлёвую сетку апошнім часам, "Чырвонка" прадставіла яшчэ ў верасні мінулага года. Сёння пагаворым пра змест другога дыска той зборкі "The best of the Scorpions", якая выдадзена з арыгінальнай мастацкай аздобай, і, натуральна, пра гісторыю самога гурта.

Дата і месца нараджэння: Гановер, 1965 год. Рудольф Шэнкер, ініцыятар новага праекта, граў тады на бубнах, паступова перакваліфікаваўшыся на гітарыста. Праз год, у 1966, да яго далучаецца Клаўс Мэйне, які раней спяваў у ансамблі "Капернік". Прайшоў яшчэ год, і вось ужо разам з імі яшчэ адзін Шэнкер, малодшы брат Рудольфа – Міхаэль.

Толькі праз сем гадоў ад творчага старту гурту ўдалося прывабіць увагу фірмы "Метраном": у 1972 годзе выходзіць першы лонгплэй "Скорпіёнс" пад назвай "Адзінокая варона".

Склад гурта пастаянна змяняўся. Нават адзін з братоў – Міхаэль Шэнкер – адыходзіў і вяртаўся колькі разоў, пакуль у 1979 канчаткова не вырашыў заснаваць уласны калектыў (пра ягоны "МШГ" мы пісалі ў 185-м выпуску "Нотнага аркуша", анатуючы альбом "Цудоўнае бавенне часу").Перыяд, які адбіты на гэтай зборнай кружэлцы, зафіксаваны наступным саставам: па-за Рудзі і Клаўсам гралі Эрген Розенталь (бубны), Ульрых Рот (гітара), Францыс Бухгольц (бас-гітара), Герман Рарэбель (бубны), Рудзі Ленэрс (бубны).

У кружэлку ўключаны кампазіцыі з альбомаў "Палёт да вясёлкі" (1974), "У трансе" (1975), "Нявінны забойца" (1976), "Такійскія запісы" (1978). Апошняе з названых выданняў, як няцяжка здагадацца, уяўляе сабой Live-recording, у той час як астатнія – студыйныя запісы.

"Набіраючы хуткасць", "На ўсю ноч" і "Мы спалім нябёсы" акурат тут запісаны жыўём і, бадай, ці не выйграюць у параўнанні з астатнімі сямю студыйнымі творамі? Магчыма, гэта адна з галоўных рыс гітавай музыкі, да якой сягае "Скорпіёнс".

І хоць у нашыя крамы трапіла тутэйшае пірацкае выданне, нельга не адзначыць і канцэптуальную мастацкую аздобу (гэта заслуга фірмы "Ар Сі Эй"), і добрае паліграфічнае выкананне (тут ужо пастараліся нашыя піраты).



**Сафія РАТАРУ**
**"Песні Уладзіміра Івасюка"**
**Мелодыя, 1977**

Гэты альбом вяртае нас на паўтара дзесяцігоддзя назад, калі і Сафія Ратару, і Уладзімір Івасюк з'яўляліся імкліва ўзыходзячымі ўкраінскімі зоркамі шматнацыянальнай савецкай эстрады. Сёння мы выразна адчуваем, наколькі розныя вынікі далі тыя два шляхі, якімі пайшлі гэтыя артысты, хоць пачатак абяцаў аднолькава захапляючыя перспектывы.

Альбом складаецца з 12 песень на вершы выключна ўкраінскіх паэтаў (Б.Стэльмаха, Ю.Рыбчынскага, Д.Паўлычкі, Р.Бартуня, Б.Гуры, М.Воньё) і на тэксты самога У.Івасюка. Мова, натуральна, украінская. А спявала Сафія Ратару ў суправаджэнні эстраднага аркестра Украінскага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам Р.Бабіча і эстраднага аркестра пад кіраўніцтвам Ф.Грушанкі.

Уладзімір Івасюк не дажыў да сённяшняга дня, але заўчасная смерць не выцерла памяць пра таленавітага сына свайго народа з сэрцаў украінцаў. Нават цэлы фестываль (маем на ўвазе чарнавіцкую "Чырвону руту") прысвячаецца сёння светлай памяці Уладзіміра Івасюка, праводзяцца конкурсы на лепшае выкананне ягоных песень.

Ну а Сафія Ратару? Ейнае імя таксама на слыху, бо... цяжка забыцца пра жывога чалавека, які пастаянна імкнецца быць навідавоку. Сафія Ратару імкліва змяняе стыль, імідж, мову, абы не страціць слухача. Мову, натуральна, выбірае больш масавую, стыль – больш модны... І як вынік, нічога дзіўнага, на канцэртах заўсёды поўны збор, а ў душах?..

Нешта не чуваць ні на Украіне, ні ў Расіі фестываляў імя Сафіі Ратару, не праводзяцца конкурсы ейных песень... Ад Украіны яна сышла (абмежаваная мова, кансерватыўная публіка), а ў Расіі сваіх зорак поўна. І хоць ты спявай на іхняй мове, хоць ты самому Л. І. Брэжневу прысвячай свае выступы (1980, песня Д.Тухманава і А. Кымытваля "Кастрычнік"), але цяжка застацца ў душах людзей, страціўшы нават сябе ў сваіх дагаднялках: якой яна засталася – пяшчотнай срэбнагалосай украінкай, кан'юнктурнай саўкультаўскай публіцысткай ці зухаватай бабулькай-металісткай – цяжка асэнсаваць, бо надта хутка мільгалі кадры гэтай творчай біяграфіі.

Сёння У. Івасюк – класік украінскай песні, а С. Ратару – адна з зорак эстрады колішняй імперыі. Імперыя загадвае доўга жыць, і наўрад ці якісьці з ейных народаў захавае мастацтва імперыі, бо ў кожнага ёсць сваё.

*Нядзеля. Спёка. Час падыходзіў да 18 гадзін. Людзей на вуліцах Мінска было мала. Многія паехалі адпачываць за горад.*

*Іван Мікалаевіч Жучкоў, зайшоўшы ў сквер ля тэатра імя Я.Купалы, прысеў на лаўку. Там жа сядзелі тры смуглявыя маладыя хлопцы. Па знешняму выгляду можна было падумаць, што яны з Сярэдняй Азіі.*

# "Госці" з поўдня

Хлопцы паведалі, што яны на суткі прыехалі ў Мінск, але ім няма дзе пераначаваць. У гасцініцу ісці ім не хацелася б, бо ў іх шмат рэчаў.

Жучкоў успомніў, што яго сябра Анатоль Данілавіч Стольнікаў жыве адзін у аднапакаёвай кватэры, таму паабяцаў хлопцам дапамагчы. Па тэлефоне ён запрасіў яго прыехаць у сквер і пазнаёміў са сваімі новымі знаёмымі. Апошні згадзіўся прадаставіць ім на ноч сваю кватэру.

Анатоль Данілавіч здзівіўся, што хлопцы адразу пачалі паводзіць сябе ў кватэры як гаспадары. Передумалі ехаць па свае рэчы. Потым адзін з іх, падышоўшы да гаспадара, сыпануў у твар прыгаршню солі і ўдарыў кулаком. Другі пастаялец прыставіў да горла нож і прымусіў зняць джынсы, зняў з пальца сярэбраны пярсцёнак.

Рабаўнікі прымусілі гаспадара кватэры легчы на падлогу і шалікамі звязалі яму ногі і рукі. Каб ён не супраціўляўся, ударылі яго нажом. Бралі ўсё, што мела хоць якую-небудзь каштоўнасць: абутак, адзенне, кнігі, туалетныя прылады і іншыя рэчы.

Хутка ўсё заціхла. Палонны зразумеў, што рабаўнікі збеглі. З цяжкасцю яму ўдалося вызваліць рукі. Потым ужо развязаў і ногі. У кватэры засталася толькі мэбля і то, толькі таму, што яе без грузавой машыны нельга было вывезці.

"Патэлефанаваць у міліцыю",— мільганула адразу думка. Аднак тэлефонны шнур быў перарэзаны. Добра яшчэ, што суседзі аказаліся дома, адтуль Анатоль Данілавіч і паведаміў у міліцыю аб здарэнні.

Міліцыянеры аддзела пазаведамаснай аховы пры Кастрычніцкім РАУС горада Мінска Васіль Рагатка, Канстанцін Касцюк і Юрый Гаспадарык атрымалі паведамленне ад дзяжурнага РАУС, калі знаходзіліся непадалёк ад універсама па вуліцы Магілёўскай. Хутка на прыпынку аўтобусаў яны заўважылі трох хлопцаў, па прыкметах падобных на рабаўнікоў, якія садзіліся ў таксі. Таксі было спынена. Пасажыры аказаліся жыхарамі Мінска. Гэта — вадзіцель харчовага камбіната Абдулаеў, маляр ГПЗ № 11 Мамажанаў і нідзе не працуючы Рахматаў.



Спачатку работнікі міліцыі нават засумняваліся, настолькі спакойна рабаўнікі паводзілі сябе. У затрыманых было 7 сумак з рэчамі. Усе яны, не міргнуўшы вокам, заявілі, што гэта іх асабістыя рэчы, яны накіроўваюцца на чыгуначны вакзал, каб паехаць на поўдзень. Праўда, у іх не было білетаў на цягнік. Усё канчаткова высветлілася, калі былі агледжаны рэчы. Яны адпавядалі рэчам, якія былі ўкрадзены.

Кропку ў гэтай крымінальнай гісторыі паставіў народны суд Кастрычніцкага раёна горада Мінска. За разбойнае нападзенне групай асоб з насіллем, небяспечным для жыцця і здароўя пацярпеўшага, народным судом Кастрычніцкага раёна ўсе трое асуджаны на 5 год пазбаўлення волі кожны з канфіскацыяй маёмасці.

**Заўвага:** *прозвішчы пацярпеўшага і яго знаёмага зменены.*

**Л. Гранкоўскі.**
**Фота С. Рачылы.**

## ІНФА-КРЫМ

### "Ёсць у рэвалюцыі пачатак..."

Некалькі войнаў, у тым ліку грамадзянскую і Вялікую Айчынную, перажыла 78-гадовая пенсіянерка з вёскі Мясота Маладзечанскага раёна. А вось так званую лібералізацыю цэн і звязанае з гэтым павелічэнне злачыннасці не здолела перажыць: 28 студзеня труп жанчыны з прыкметамі гвалтоўнай смерці быў выяўлены ў яе ж уласным доме. Суцяшае тое, што міліцыі ўжо вядомы падазраваемы ва ўчыненні гэтага жахлівага забойства.

### Замест калыханкі

У ноч на 29 студзеня невядомы пранік у склад дзіцячага дома ў Салігорскім раёне і выкраў вялікую колькасць прадуктаў, якія хутчэй за ўсё і не сніліся насельнікам дзетдома: вэнджаніна, індыйская гарбата, згушчанае малако, цукеркі.

### "Мэбліяда"

У ноч на 28 студзеня быў абрабаваны адзін з прыватных дамоў па вуліцы Заводскай у Барысаве. Цікава, што злачынцы выкралі аж два мэблевыя гарнітуры.

### З пісталетам на аўтобус

26 студзеня супрацоўнікі Заводскага РАУС сталіцы выйшлі наперарэз аўтобусу, які спрабаваў угнаць невядомы. Давялося страляць. Угоншчык затрыманы.

### Вось кампанія якая...

13 студзеня адбыўся буйны крадзеж са сховішча прадпрыемстваў грамадскага харчавання, што ў пасёлку Бярэзінскае Маладзечанскага раёна: выкрадзены дэфіцытныя прадукты харчавання на 14 тысяч рублёў.

Днямі міліцыя ўстанавіла, што злачынства ўчынілі пяцёра маладых людзей, у тым ліку нідзе не працуючы слесар аднаго з прадпрыемстваў Маладзечна і тры навучэнцы СПТВ. Як высветлілася, гэтая ж кампанія раней учыніла шэраг налётаў на навакольныя лецішчы.

### ЗаМАЗалі...

У Мінскім абласным судзе скончана слуханне справы так званых выкрадальнікаў "МАЗаў", якія ўчынялі налёты пад час перагонкі новенькіх аўтамашын з завода. Падрабязнасці — у адным з бліжэйшых нумароў "Чырвонай змены".

**У бюро** дзяжурыў П.Сіманаў.



# Прышэльцы засталіся жывыя?..

*Уфолагі з амерыканскай арганізацыі "Невада Эрыел Рысерч Груп" працягваюць адпрацоўваць версію, згодна з якой урад ЗША падтрымлівае кантакты з прышэльцамі з космасу. Як заявіў часопіс "Фэйс" (Вялікабрытанія), паводле іхніх меркаванняў, пасля катастрофы "лятаючай талеркі" ля горада Росвела (штат Нью-Мексіка) у 1947 годзе "госці" засталіся жывыя і ўтрымліваюцца на сакрэтнай падземнай базе ў пустыні Невада. Прычым "іншапланецяне" нібыта высокаінтэлектуальныя канібалы, а ўрад "забяспечвае" іх жывымі дзецьмі ў абмен на сакрэты пазаземных тэхналогій...*

## І. Катастрофа ў Нью-Мексіка: НЛА ці метэазонд?

Сенсацыя гэта паклала пачатак буму НЛА. Яна абляцела ўвесь зямны шар хутчэй, чым першы штучны спадарожнік, які з'явіцца толькі праз 15 год.

2 ліпеня 1947 года жыхары горада Росвела заўважылі ў начным небе дзіўны аб'ект, які нагадваў дзве складзеныя разам талеркі. Праз некалькі дзён упаўнаважаны па сувязях з грамадскасцю размешчанай побач з горадам базы ВПС старшы лейтэнант Хоўт выступіў з заявай для прэсы. Ён пацвердзіў, што расказы відавочцаў не былі выдумкай, і лятальны аб'ект знойдзены на тэрыторыі адной з ферм.

Інтэрв'ю з лейтэнантам апублікавала гарадская газета "Дэйлі рэкорд" 8 ліпеня. Але ўжо вечарам таго ж дня адбылася прэс-канферэнцыя афіцэра Ньютана, спецыяліста па метэаслужбе, які заявіў, што прад'яўленыя яму рэшткі не што іншае, як рэшткі метэазонда.

Ваенны эксперт, здаецца, быў шчыры. Аднак кавалкі, што былі дастаўлены нібыта з месца катастрофы, яму ўручыў не хто іншы, як палкоўнік Дзюбоўз. Гэта быў ад'ютант генерала Рэмі, які кіраваў аперацыяй прыкрыцця, распрацаванай Пентагонам. Праз 32 гады генерал у адстаўцы Дзюбоўз прызнаўся, што гісторыя з метэазондам была выдумана яго шэфам з мэтай "патушыць пажар"...

## 2. Відавочцы супраць фальсіфікатараў з Пентагона

Як высветлілася, лейтэнант Хоўт зрабіў сваю заяву без дазволу камандавання. А ў той самы час Пентагон, авалодаўшы рэшткамі "лятаючай талеркі", збіраўся гэтую гісторыю засакрэціць.

Каб не было далейшай уцечкі інфармацыі, ваенныя зрабілі сапраўдную інфармацыйную блакаду і разгарнулі кампанію дэзінфармацыі.

Аднак журналісты ўжо паспелі пагутарыць з відавочцамі з'явы: фермерамі, інжынерамі, студэнтамі-археолагамі і, што самае галоўнае — з самімі ваеннаслужачымі.

Уладальнік фермы, якая аказалася ў цэнтры з'яў, Брэйзел расказаў, што 3 ліпеня вечарам ён пачуў моцны грамавы ўдар і ўбачыў яркую ўспышку. Знайшоўшы нейкія незвычайныя абломкі, ён звязаўся з шэрыфам. Той імгненна праінфармаваў афіцэра разведкі Марсела.

Разведчык, які арганізаваў збор і транспартаванне абломкаў, паспеў прагаварыцца, што гэта былі на самай справе даволі незвычайныя кавалкі. Некаторыя з іх нагадвалі алюмініевую фальгу, якую немагчыма было разрэзаць і нават проста змяць. З гэтага ж матэрыялу быў зроблены і кавалак трубы.

Не менш дзіўна выглядалі іншыя дэталі. Яны здаваліся драўлянымі, але былі з нейкага іншага матэрыялу. Прычым на іх была маркіроўка, якая нагадвала іерогліфы. Пра гэтыя таямнічыя надпісы прыгадваў і фермер. Праўда, яму падалося, што яны падобныя на малюнкі індзейцаў. Былі знойдзены таксама матэрыялы, якія нагадвалі карычневы пергамент і трывалы шоўк.

Паказанні інжынера Барнета, працаваўшага ў тым раёне, сведчаць, што пасля гэтага крушэння засталіся не толькі абломкі. Ён расказаў, што яго ўвагу прыцягнуў зязўшы на сонцы прадмет, які ляжаў на адлегласці каля паўтара кіламетра. Першая думка была — авіякатастрофа. Але падышоўшы бліжэй, ён убачыў дыскападобны аб'ект дыяметрам каля 10 метраў.

Хутка да дыска наблізіліся яшчэ некалькі чалавек — члены археалагічнай экспедыцыі, што працавала побач з горадам. Але тут з'явіліся людзі ў ваеннай форме і выдварылі ўсіх чужых з гэтай зоны. Пры гэтым папярэдзілі, што патрыятычны абавязак відавочцаў — трымаць язык за зубамі...

Інжынер усё ж шапнуў сябрам пра некаторыя падрабязнасці. Паводле іх слоў, ён прыгадваў аб мёртвых членах экіпажа "талеркі". «Яны выглядалі як людзі, але штосьці ў іх было нечалавечае», — распавядаў Барнет. Яму кінулася ў вочы, што галовы "прышэльцаў" былі "зусім круглыя і без валасоў".

Былі апублікаваны і паказанні вадзіцеля, які прымаў удзел у транспартаванні з гэтага раёна дыскападобнага аб'екта, схаванага пад брызент.

І толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў нібыта рассакрэчаны дакумент ЦРУ прыпадняў заслону над гэтай таямніцай. Ён пацвердзіў словы аднаго з даследчыкаў здарэння ў Нью-Мексіка аб тым, што пілоты "талеркі" толькі знешне выглядалі "амаль як людзі".

А тады, у 1947-м, на нейкі час сляды "дыска" згубіліся...

## 3. "Ангар-18": фантастыка ці тайна ЦРУ?

У амерыканскім фантастычным фільме "Ангар-18" быў зроблены даволі празрысты намёк на тое, што паказаная гісторыя адлюстроўвае рэальныя з'явы. Справа ў тым, што паводле звестак, якія трапілі ў прэсу, загадкавыя абломкі, знойдзеныя на ферме Брэйзела ў 1947 годзе, па загаду былі пагружаны ваеннымі ў самалёт і адпраўлены на базу ВПС у штаце Тэхас. Адтуль іх перавезлі на базу Райт-Патэрсан і змясцілі ў звышсакрэтны ангар "18а".

Што на самай справе перавозіў самалёт і што вывезлі пад брызентам з месца здарэння на грузавіку? Ці была гэта ўсё ж такі катастрофа НЛА ля горада Росвела, куды дзеліся "іншапланецяне" і ці жывыя яны? Гэтыя пытанні, напэўна, дагэтуль заставаліся б без адказаў, калі б не "загаварыў" архіў ЦРУ...

"Рассакрэчаны"праз сорак гадоў пасля здарэння дакумент, складзены першым дырэктарам ЦРУ Хіленкотарам, быў апублікаваны ў прэсе і выклікаў такі шум, нібыта ўзарвалася цэлая чарада НЛА. Вось змест агучанага дакумента:

"7 ліпеня 1947 года, у ходзе аперацыі па адшуканню і навуковаму даследаванню абломкаў упаўшага на зямлю аб'екта нашай авіяразведкай былі знойдзены таксама чатыры невялікія чалавекападобныя істоты, якія, напэўна, катапультаваліся з іх загінуўшага карабля перад выбухам. Яны прызямліліся прыкладна ў дзвюх мілях к захаду ад падзення карабля. Усе былі мёртвыя, знявечаныя і знаходзіліся ў стане моцнага разлажэння, бо да іхняга выяўлення амаль тыдзень былі здабычай грызуноў, насякомых і мікраарганізмаў. Астанкі чатырох невядомых абследавала навуковая каманда. Вучоныя ўстанавілі, што істоты толькі з выгляду чалавекападобныя, але біялагічна і эвалюцыйна не падобны на людзей. Таксама ўстаноўлена па рэштках карабля, што ён незямнога паходжання".

Цікавым дадаткам да гэтага апісання з'яўляецца пасведчанне (зараз ужо нябожчыка) вучонага-фізіка з Вашынгтона Сарбечара, прымаўшага ўдзел у даследаваннях. Ён заявіў, што "лятаючая талерка", якая пацярпела катастрофу, была зроблена з нейкіх вельмі моцных і лёгкіх матэрыялаў". Унутранасці трупаў пілотаў, як яму падалося, "нечым нагадвалі будову насякомых".

Такім чынам, у ангар "18" былі змешчаны толькі абломкі "талеркі" і трупы яе пілотаў?

А як жа з заявай лейтэнанта Хоўта і расказам інжынера Барнета, які бачыў дыск цэлым і з "мёртвымі прышэльцамі" унутры? Абломкі, знойдзеныя фермерам Брэйзелам, маглі быць рэшткамі толькі якой-небудзь знешняй дэталі "талеркі".

Не супадае гэтая версія і з паказаннямі вадзіцеля грузавіка. Урэшце, гэта і ня дзіўна. Відаць, пераканаўшыся, што абсалютна ўсё схаваць немагчыма, амерыканскія ўлады вырашылі высунуць з акіяна маўчання толькі "верхнюю частку айсберга".

## 4. Абскубаная"утка" на вяршыні сакрэтнага "айсберга"

Фальшыўка ЦРУ ў гэтым выпадку магла быць "джокерам" з рукава, пабіўшым у гэтай нячыстай гульні "казырнага туза"— сапраўдныя з'явы, а менавіта — дастаўку на сакрэтную базу цэлага карабля з жывымі "прышэльцамі". Інжынер жа Барнет нічога не сказаў аб тым, што трупы былі знявечаныя, а, наадварот, добра разгледзеў іх. Дык, магчыма, пілоты "талеркі" ўсяго толькі страцілі прытомнасць?

"Маленькая хлусня нараджае вялікі недавер"— ці не так? Па закону аб свабодзе інфармацыі ніводная ўрадавая арганізацыя ў ЗША не мае права афіцыяльна засакрэчваць матэрыялы аб НЛА. Аднак з самага пачатку Пентагонам была пушчана "утка" аб падзенні метэазонда, так званая "абскубаная" праз 40 гадоў ЦРУ. Камандаванне ВПС ЗША сцвярджае, што ўся дакументацыя па дадзенай справе была знішчана. Якім жа чынам мог "засвяціцца" архіў самога ЦРУ? Толькі ў тым выпадку, калі гэты свет быў знутры, з асабістага "кішэннага ліхтарыка", прамень якога асляпляе і адводзіць увагу ад таямнічага змроку...

## 5. Паўлюдзі, паўнасякомыя?..

Асабістыя адносіны Вашынгтона да праблемы НЛА пасля катастрофы ў Росвеле пасведчаны ў рассакрэчаным і трапіўшым на старонкі газет дакуменце Міністэрства транспарту Канады, датаваным 1950 годам. Са спасылкай на матэрыялы, трапіўшыя ў пасольства Канады ў ЗША, у ім сцвярджаецца, што праблема гэта самая засакрэчаная ва ўрадзе ЗША, і тое, што "лятаючыя талеркі" існуюць.

І гэтая глухая заслона сакрэтнасці да гэтага часу не зварухнулася. На старыя дакументы, якія падлягаюць рассакрэчванню, накладваецца грыф сакрэтнасці, уведзены нашмат пазней. Паводле звестак прэсы, гэта чарговая спроба зблытаць карты дасягнула мэты — Камітэт па даследаванню анамальных з'яў, куды ўваходзіць група па НЛА, заключыў, што ўсе дакументы па катастрофе ў Нью-Мексіка — фальшыўка.

А як рэагаваў дзяржДэпартамент ЗША, калі на XXXIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН было вырашана стварыць дэпартамент па каардынацыі і распаўсюджванню вынікаў даследаванняў НЛА і звязаных з імі з'яў? Рассакрэчаная тэлеграма, накіраваная ў адрас дэлегацыі ЗША, прымушала выступіць супраць такой рэзалюцыі.

Ці не таму ўсё гэта робіцца, што яшчэ не ўся праўда сказана аб гэтай катастрофе? Дык, можа, версія ўфолагаў з Невады блізкая да ісціны, і "прышэльцы" жывыя?!

Хаця канібалізм іншапланецян і іх адкормліванне жывымі дзецьмі — гэта, здаецца, ужо занадта. Урэшце, калі па будове яны сапраўды нагадваюць насякомых, то... Ва ўсялякім выпадку, на Зямлі канібалізм сярод насякомых — справа, як гаворыцца, звычайная. Ды і людаедства бывала ў яшчэ не зусім пазабыта, нягледзячы на развіццё цывілізацыі...

**Па матэрыялах друку.**



Пішу гэтыя радкі з надзеяй, што адклікнецца якая-небудзь дзяўчына. Дзе ты, адзіная і непаўторная, здольная дараваць мне маё мінулае?

Мне 20 год, рост 180, вага 76 кг. Халасты. Адукацыя сярэдняя. Характар мяккі, верны, з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, ураўнаважаны. Інтарэсы разнастайныя. Цяжкасцей не баюся. Да гарэлкі абыякавы, куру ў меру. Здольны цаніць дабрыню і вернасць. Жадаю мець дружную, шчаслівую сям'ю. Адкажу на ўсе лісты з фотаздымкамі, якія гарантую вярнуць. Дзеля цікавасці прашу не пісаць.

Мой адрас:

*Пермская вобл., Чардынскі р-н, п. В-Колва. Ш 320/13-16, барак № 2 к. № 7. Апкіну Эдуарду Рафісавічу.*

* * *

Я вельмі жадаю знайсці сяброў з розных куткоў Беларусі. Я буду вельмі ўдзячна, калі вы дапаможаце мне ў гэтым. Цяпер пра сябе: мне 16 гадоў, студэнтка. Вельмі люблю папулярную музыку. Любімы гурт — "Тэхналогія". Хаджу на дыскатэкі. Па характары вясёлая, ветлівая. Калі хто адгукнецца на мой ліст, буду вельмі ўдзячная.

Мой адрас:

*222410, г.Вілейка, вул. 1 Мая, 80, пак.408. Дурэйка Алене.*

* * *

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя "Чырвонай змены". Хачу мець сяброў па перапісцы.

Мой адрас:

*г.п.Капаткевічы, Гомельская вобл., вул. Кастрычніцкая, 79. Цылько Юліі Васільеўне.*

* * *

Добры дзень, "Перапіска"!

Мне 22 гады, рост 180 см, целасклад нармальны, вочы карыя, жанаты не быў, вельмі люблю дзяцей, сарамлівы. Зараз знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі. Да вызвалення — год. Спадзяюся з вашай дапамогай знайсці верную сяброўку жыцця. Можна з дзіцем. Адкажу на ўсе лісты.

Мой адрас:

*230025, г.Гродна, вул.Кірава, УЖ 15/ ст.1 Веракса Уладзіміру Уладзіміравічу.*

* * *

Івашкевіч Канстанцін Вадзімавіч, рост 172 см, 1945 г.нараджэння, рускі, працую ў калгасе "Ленінскі шлях" Магілёўскай вобласці бульдазерыстам. Хачу пазнаёміцца з жанчынай майго ўзросту ці крыху маладзейшай. Разведзены. Жыву 17 гадоў халасцяком. Бацькоў няма, хачу пад старасць мець сяброўку. Прашу вас дапамагчы мне.

З павагай Івашкевіч К.В.

*213217, Магілёўская вобл., калгас "Ленінскі шлях", в. Каменка.*

* * *

Добры дзень, "Перапіска"! Можа з вашай дапамогай мне пашанцуе сустрэць любімага чалавека. Аб сабе: мне 23 гады, рост 165 см. У шлюбе не быў. Спартыўнага целаскладу. Зараз знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі. Нягледзячы на сваё цяжкае становішча, хачу пазнаёміцца з дзяўчынай да трыццаці гадоў для стварэння сям'і. Жадаю кахаць і быць каханым. Можна з дзіцем. Адкажу на ўсе лісты.

*Мой адрас: 230025, г.Гродна, вул. Кірава. УЖ 15 ст. 1. Блажэвіч Анатоль Іванавіч.*

* * *

Пішуць вам тры сяброўкі — Таццяна, Святлана і Марыя. У нас шмат сяброў, але хочацца мець яшчэ больш, і таму мы вырашылі звярнуцца ў "Чырвонку". Крыху напішам пра сябе: нам па 16 гадоў, любім слухаць музыку, хадзіць на дыскатэкі, у кіно, чытаць мастацкую літаратуру. Чакаем лістоў і спадзяёмся, што знойдзем новых сяброў.

Наш адрас:

*222419, Мінская вобл., г.Вілейка, вул.Першамайская, 20, блок 409. Радкевіч Таццяна, Шыбко Святлана, Дуброўская Марыя.*

## Умовы завочнага клуба знаёмстваў

Разам з пісьмом у рэдакцыю неабходна даслаць квітанцыю аб аплаце: за кожны адрас зацікавіўшага вас абанента або ліст яму – два рублі. Калі вы хочаце ўбачыць надрукаваным у "Перапісцы" толькі свой адрас – 5 рублёў. За пісьмо, змешчанае ў рубрыцы знаёмстваў – 20 рублёў.

Грошы пералічваюцца на разліковы рахунак "Чырвонай змены" № 345480 (код 811) у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку г. Мінска, за межамі рэспублікі – № 811161700 у Гарупраўленні Дзяржбанка г. Мінска МФО 400417, абавязкова з паметкай "Перапіска" (гэта можна зрабіць у любым паштовым аддзяленні або ў ашчадным банку).

Рэдакцыя прадастаўляе льготы ваеннаслужачым. Яны могуць уносіць або не ўносіць плату па ўласнаму жаданню. Але друкавацца ў першую чаргу будуць лісты, да якіх прыкладзена квітанцыя.

Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць тэксты пісьмаў пры падрыхтоўцы да друку. Пісьмы без зваротнага адраса друкавацца не будуць.

Інтэлігентны малады чалавек (28/172/69) шукае спадарожніцу жыцця.

Ён: рамантык. Верыць у каханне.

Год Тыгра. Сузор'е Стральца. Адукацыя вышэйшая. Прафесія творчая. Працуе і вучыцца ў тэатральнай ВНУ. Духоўны свет — мастацтва. Захапленні разнастайныя: тэатр, літаратурная творчасць, беларуская і замежная культура. Характар чулы, спагадлівы. Жыве адзін. Мае асобную кватэру.

Яна: духоўна блізкая натура. Захапленні падобныя. Сімпатычная, абаяльная, чароўная. Характар добры, памяркоўны. Зможа пакахаць. Без дзяцей, але хоча іх мець. Добрая гаспадыня. Прашу фота.

Пішыце па адрасу:

*210022, г.Віцебск, вул. Чкалава, д.18, корп.1, кв.108. Іваноўскі Юрый Генадзьевіч.*

* * *

У цяперашні час я асуджаны і знаходжуся ў калоніі на пасяленні. Спадзяюся, што можа знойдзецца жанчына да 35 гадоў, якая магла б стаць каханай, адзінай у свеце, якая магла б дараваць мінулае і зразумець стан душы іншага чалавека. Магла б паверыць. Хацелася, каб з ёй можна было дзяліць усе радасці і горыч жыцця.

Мне 32 гады. Разведзены. Характар ураўнаважаны. Люблю займацца гаспадаркай. Захапленні — кнігі, музыка, турызм. Хацелася б пазнаёміцца з дзяўчынай ці маладой жанчынай да 35 гадоў. Можна з дзіцем, дзеці не перашкода.

У жанчыне цаню сумленнасць, прыстойнасць, добразычлівасць, а галоўнае — вернасць.

Асоб, якія зацікавяцца, прашу даслаць фота.

Фотаздымак гарантую вярнуць.

Мой адрас:

*618643, Пермская вобл., Чардынскі р-н, п.Верхняя Колва. Ш 320/13-16, барак № 2, к.10. Астапчанку Георгію Аляксандравічу.*

* * *

Зараз я знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі, у калоніі на пасяленні. Людзі абыходзяць нас бокам. А мы ж "зэкамі", як нас завуць, не нарадзіліся. Надыдзе ў кожнага з нас свой тэрмін вызвалення, і мы будзем мець такія ж правы, як і ўсе, і нічым не будзем адрозніваецца ў гарадскім натоўпе. І ў нашых сэрцах ёсць каханне, пяшчота і цеплыня.

Я вельмі пакутую ад адзіноты. Няма ні добрых сяброў, ні блізкіх, ні родных. Калі б крыху раней са мной апынуўся блізкі родны чалавек, я ўпэўнены, што ніколі б не трапіў у гэтыя месцы.

Падрыхтавала Майя Шэндрык (тэл.32-50-01).

**OMEGA**

## Прачытай і перадай другому!

У гатэлі "Юбілейная" адкрываецца першае ў Мінску казіно. Да 24 гадзін яго наведвальнікі будуць гуляць на рублі, пасля 24 — на валюту. Казіно адкрывае адно з дзеючых у Мінску СП. Кадры туды будзе пастаўляць англійская школа круп'е.

* * *

З нагоды дэфіцыту энергазабеспячэння магчымы часовыя спыненні пастаўкі вады і электраэнергіі ва ўсёй сталіцы Беларусі.

* * *

Гавораць, што студэнты здаюць сесію.

* * *

У Мінску працуе жанчына-гінеколаг, якая падпольна праводзіць аперацыі па вяртанню жанчынам цнатлівасці.

* * *

Апошні месяц зімы будзе вельмі сцюдзёным. Тэмпература паветра будзе прыкладна на 15 градусаў Цэльсія ніжэй за звычайны ўзровень.

* * *

Урад Расіі спадзяецца, што Беларусь будзе пастаўляць Маскве мясную прадукцыю ў тым аб'ёме, які існаваў да "Чацвёртай рускай рэвалюцыі". Наяўнасць мяса ў беларускіх магазінах міністрамі Расіі яўна не ўлічваецца.

* * *

У адзін з магазінаў Мінска было завезена дзіцячае харчаванне. Аднак адміністрацыя магазіна вырашыла прытрымаць тавар пад прылаўкам. Жанчынымаці, якія прыйшлі ў магазін у гэты дзень, даведаўшыся аб такім учынку, перакрылі рух на Партызанскім праспекце.

* * *

Гавораць, што ў аптэкі Мінска паступілі імпартныя прэзерватывы з фруктовым смакам і пахам.

* * *

Барыс Ельцын падпісаў указ аб зліцці МУС Расіі з Асацыяцыяй федэральнай бяспекі гэтай рэспублікі ў п'яным выглядзе.

* * *

У ЗША беларускія купоны ідуць па курсу 1:1 да даляра.

* * *

На Камароўскім і іншых рынках сталіцы Беларусі многія тавары можна набыць без грошай, за купоны.

Падрыхтаваў Аляксей Краўчанка.

Дзяжурны рэдактар А. КАМІНСКІ. — Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: Саюз моладзі Беларусі
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.





Зак. № 5.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12